PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (2047) ГОД XL БЕЛАСТОК 6 ЖНІЎНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*— Добры дзень, сябры. Пробачтэ, że nie będę mówił po białorusku... — пачаў сваё выступленне Яцэк Курань на адкрыцці III Мастацкіх сустрэч Беласток—Гародня (рэпартаж з гэтага мерапрыемства чытайце на стар. 8).*

## КАНЦЭРТ

У суботу, 15 ліпеня, вечарам у Гайнаўскім доме культуры адбыўся канцэрт опернага спевака Міхала Скепкі, ураджэнца цяперашняй Гайнаўскай зямлі. Канцэрт вёў дырэктар ГДК Мікалай Бушко, а ягоная ўстанова выдала з гэтай нагоды праграму, у якой, апрача планаваных нумароў канцэрта, былі змешчаны важнейшыя пункты з артыстычнай біяграфіі спевака.

Міхал Скепка нарадзіўся не на Гайнаўскай зямлі, як гэта было напісана, бо яе тады яшчэ не было, а ў вёсцы Пасекі, што прытаілася зараз за Семяноўкай пад Белавежскай пушчай. У той час магла гэта быць зямля або Бельская, або Ваўкавыская або, быць можа, Пружанская. Гайнаўская зямля ўзнікла разам з паветам, г.зн. тады, калі ўжо будучы артыст хадзіў у школу. Пасля школаў М. Скепка працаваў крыху ў Беластоку, дзе належаў да хору БГКТ. На пачатку 60-х гадоў прызываюць яго ў войска і то не ў абы-якую часць, а ў Цэнтральны артыстычны ансамбль Войска Польскага. Пяць гадоў спяваў у хоры, а потым стаў выконваць сольныя партыі. Вялікую дапамогу аказваў яму артыстычны кіраўнік ансамбля Мазурэк, пад якога кіраўніцтвам паглыбляў сваю артыстычную адукацыю. У 1971 годзе перайшоў у Варшаўскую камерную оперу. Сутыкнуўся там з віднейшымі польскімі артыстамі м. інш. з Дэймкам, Максімюкам, Бардзінім. Выступаў за мяжою: у Нямеччыне, Францыі, Чэхаславакіі, ЗША, СССР. У 1979 г. на спявачым конкурсе *Voci Verdiane* ў італьянскім горадзе Бусета блізу Пармы, у якім пачалася славутая кар'ера віднейшага опернага кампазітара Джузепе Вердзі, наш зямляк заваяваў залаты медаль. Адразу пасыпаліся прапановы кантрактаў з опернымі тэатрамі Заходняй Еўропы, аднак М. Скепку марыўся Вялікі тэатр у Варшаве. Кіраўніцтва галоўнай польскай музычнай сцэны не праявіла зацікаўленасці пераможцам прэстыжнага конкурсу на радзіме Вердзі і наш зямляк папаў у оперны тэатр у Лодзі. Варшавякі тым часам вывучалі, што гэта такое Voci Verdiane, і ўжо на працягу года ўсвядомілі ранг гэтых спаборніцтваў і клас яго пераможца. І так у 1980 годзе Міхал Скепка стаў спеваком варшаўскага Вялікага тэатра. Выступаў тут разам з такімі славамі як Здзіслава Донат, Барбара Неман, Уршуля Травіньска-Мароз і іншыя. Ад 1987 г. выступае за мяжою, у Нямеччыне.

Канцэрт Міхала Скепкі ў Гайнаўцы, які адбыўся пры нагодзе прабывання артыста на бацькаўшчыне, быў, у параўнанні з надрукаванай праграмай, узбагачаны выступленнем Ежы Дудзіча (баса) з Гданьска, які цяперака таксама выступае ў ФРГ. Дзед Ежы Дудзіча — з Гайнаўкі, а сам пан Ежы, выступаючы разам з іншымі гданьскімі спевакамі, быў у мінулым лаўрэатам Фестывалю царкоўнай музыкі. Як відаць, спявалі сваё хлопцы, а акампаніравала ім Аліна Ліўска з Музычнай акадэміі ў Варшаве. У праграме абодвух спевакоў былі песні ўраджэнца Беларусі Станіслава Манюшкі. Ежы Дудзіч выканаў яго песню „Дзяд і баба", а таксама арыю Скалубы з оперы „Страшны двор" і адну арыю з „Чарадзейнай флейты" Моцарта. Міхал Скепка, апрача твораў Манюшкі, заспяваў песню Штольца „Брунэткі, блёндынкі", арыю з аперэты Кальмана, песні і арыі Рахманінава, Чайкоўскага, Пучыні і нарэшце найбольш папулярныя неапалітанскія песні. Публіка дзякавала артысту бурнымі апладысментамі і, на заканчэнне, кветкамі. Публікі было столькі, колькі прадбачылі арганізатары, нейкіх 150 асоб. Сведчыць гэта пра тое, што дырэктар М. Бушко напралёт ведае артыстычныя густы сваіх гайнаўскіх землякоў. Хаця, дзеля праўды, трэба адзначыць, што некаторыя слухачы пасля канцэрта наракалі, што артыст не выканаў ніводнай роднай песні. Я таксама думаю, што ў будучыні варта было б нейкую арыю князя Мантуі ці Дон Раміра, князя Салерна, заспяваць па-свойму:

*Па садочку гуляла,*
*Мяне, князя, прытуляла*
*То губамі, то рукамі,*
*То абедзвюма нагамі.*

Думаю, што пасля гэтага немагчымым было б знайсці наракайлаў нават з ліхтарыкам Філіпса. А пакуль, хай галоўным чынам наракаюць тыя, што на канцэрце не былі — быў ён прыгожым адухаўлёным музычным святам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Аляксандр Максімюк*

## Прадшколле

Узгадаванне маладога пакалення ў духу пашаны для сваёй нацыянальнай прыналежнасці — думка не з новых. Яна заўсёды нанава ўзнікае, як галоўнае пытанне, калі з'яўляецца актыўная група людзей, якія пагаядаюць на справу сваёй тоеснасці не толькі з пазіцыі кан'юнктуры, ці „шаленства" маладосці. Гаворыцца, што Беласток з'яўляецца найбольшым зборышчам беларусаў у Польшчы, але пакуль не ўзнікла тут аніводная арганізаваная ўстанова ўзгадавання дзяцей у духу беларускасці. Спробы былі.

Кажучы пра актыўную групу людзей, можна залічыць у гэтую катэгорыю студэнцкую моладзь 80-х гадоў з асяроддзя Беларускага аб'яднання студэнтаў. Шмат хто з гэтых людзей не толькі даў сваю падтрымку для арганізацыі ў той момант, калі была яна патрэбнай, але таксама, калі можна так сказаць, *астаўся быць беларусам па сёння*. За дзесяцігоддзе, якое прайшло з таго часу, штосьці памянялася ў жыцці дзеячаў: яны пажаніліся, павырасталі ім салідныя жываты, па каленях поўзаюць дзеці. Жыццё ўсё далей працілае свой шлях і трэба неяк здаць гэты экзамен, а прынамсі да гэтага імкнуцца.

Вельмі часта карысная думка нараджаецца пры нагодзе сяброўскай сустрэчы. Так было і ў дадзеным выпадку. У студзені г.г. сустрэліся тры экс-басаўскія сем'і: Каліны (Мірaслава і Юры), Карпюкі (Ірэна і Аляксандр) і Пякарскія (Барбара і Міраслаў). Па іхніх каленях, вядома ж, поўзалі дзеткі. Тады і пайшла гаворка: *што як што, але сваё прадшколле ў Беластоку, то мусім стварыць.*

Барбара Пякарская і Юры Каліна беластоцкую Куратoрыю асветы адведалі ў лютым гэтага года. Спачатку думалася ім пра адзін прадшкольны аддзел або асобную групу. У Куратoрыі адбылося азнаямленне з законамі — арганізацыю адукацыі, якая падтрымлівае нацыянальную, этнічную і моўную тоеснасць нацыянальных меншасцяў, вызначае распараджэнне міністра нацыянальнай адукацыі ад 24 сакавіка 1992 года. Працаўніца Куратoрыі, якая засцерагла сваю ананімнасць для прэсы, паддала на роздум арганізатараў беларускага прадшколля наступную думку: калі б удалося сабраць 50—60 ахвотных у прадшколле, можна дамагацца самастойнай установы. У гэтым кірунку пайшлі далейшыя намаганні. Перш за ўсё распаўсюджанне ідэі ды запісы кандыдатаў. Арганізатары пакарысталіся тут беластоцкім радыё ды сваімі прыватнымі кантактамі. Спрабавалі таксама знайсці прыхільнасць для сваёй думкі сярод праваслаўнага святарства.

Каб пусціць справу беларускага прадшколля афіцыйным шляхам, дачынен-

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Najwyższe zarobki mają u nas pracownicy stosunkowo nisko wykwalifikowani — górnicy, hutnicy, oraz ci, którzy wychodzą na ulice, potrafią sobie wywalczyć podwyżkę,* — сказаў рэктар Варшаўскага універсітэта Анджэй Каетан Врублеўскі.

*Wprost, nr 29*

Жыве сацыялізм у народзе!

* * *

*Dlaczego mniejszości prawosławnej zamieszkałej na Białostocczyźnie bliżsi są komuniści,* — пытаўся журналіст „Gazety w Białymstoku" Мацей Халадоўскі Яцка Кураня. А Курань адказаў:

*Zgodnie z moją wiedzą nie są bliżsi. A co więcej, bardzo niebezpieczne wydaje mi się nakładanie na podziały narodowościowe i religijne jeszcze stereotypów dotyczących podziałów politycznych.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 163*

* * *

*Prezydentowi przestał się podobać jego własny projekt konstytucji, zapałał natomiast wielką sympatią do projektu „Solidarności". Ten, który wyszedł z jego kancelarii, uznał za socjalistyczny. Solidarnościowego nie zna, a więc może spokojnie przejść do porządku dziennego nad jego rzeczywiście socjalistyczną treścią. Projekt „Solidarności" ostatnio podoba się niezwykle wszystkim kandydatom na prezydenta. Uznanie go za najlepszy jest przecież warunkiem zyskania poparcia związku.*

*Polityka, nr 28*

* * *

*Do wschodnich rubieży Puszczy Białowieskiej przylegała przed 1939 rokiem rozległa kraina geograficzna Rzeczypospolitej — kresowe Polesie.*

*Kurier Poranny, nr 159*

Каб Беларусь была нацыянальнай дзяржавай, як Польшча, тады ў гродзенскай прэсе пісалі б: „На заходніх ускраінах Кнышынскай пушчы плыве рака Бобра, над берагамі якой нашыя беларускія князі і магнаты будавалі шмат замкаў і абаранялі наш край ад усялякіх захопнікаў". Ці ж не гучыць гэта сэнсоўна?

* * *

*Naród ukraiński pod kierownictwem OUN-UPA zorganizował w lutym 1942 r. siłę, która była zdolna sprzeciwić się zamiarom polskich szowinistów. Pokonać tę siłę można tylko brutalnymi metodami — zdecydowały polskie koła rządowe. I takie wytyczne otrzymała Armia Krajowa, a szczególnie dowództwo 27 Dywizji, która działała na Wołyniu. Stosując się do tych zaleceń, dywizja dokonywała średniowiecznych egzekucji na ludności Wołynia. W ten sposób demonstrowała „polskość" zachodnioukraińskich ziem, zwłaszcza Wołynia. Polscy szowiniści najeżdżali i palili wsie ukraińskie. Chłopi szli spać i nie wiedzieli, czy dożyją rana. Niemiecki okupant podsycał sadyzm polskich szowinistów wobec ukraińskiej ludności. Ludność ukraińska długo znosiła cierpienia i znęcanie się ze strony polskich szowinistów. W końcu przyszedł kres wytrzymałości. Zwierzęce postępowanie Polaków zmusiło Ukraińców do zdecydowanej walki. Straciwszy nadzieje na przeżycie, chłopi przystąpili do samoobrony. Walka trwała aż do wypędzenia niemieckich faszystów i piłsudczyków z 27 Dywizji Armii Krajowej.*

*Gazeta Wyborcza, nr 162*

Пачалася сур'ёзная дыскусія паміж украінцамі і палякамі на старонках польскай прэсы. Вышэйпрыведзенае выказванне належыць украінскаму прафесару гісторыі К. Сміяну. Для параўнання прыводзім таксама апісанне гэтай самай гісторыі польскім вучоным, прафесарам Уладзіславам Філярам, салдатам 27 Валынскай дывізіі АК:

*Z chwilą zajęcia kresów wschodnich II RP we wrześniu 1939 r. władze sowieckie z miejsca zaczęły podburzać Ukraińców przeciwko Polsce. (...) Straty jednak poniosła ludność polska na Wołyniu z rąk ukraińskich nacjonalistów podczas akcji terrorystycznych w latach 1942—1944, a zwłaszcza w 1943 r. Fala pacyfikacji polskich wsi szła od wschodu. Napór oddziałów Ukraińskiej Powstańczej Armii był tak silny, że AK początkowo była bezradna. Głównym hasłem nacjonalistów ukraińskich w obecnym czasie jest zebranie sił i oczyszczenie terytorium z Polaków. Nacjonaliści po zwierzęcemu rozprawiali się z Polakami...*

*Gazeta Wyborcza, nr 162*

Нармальная навуковая дыскусія. Для кожнага з вучоных — як відаць — найважнейшай з'яўляецца праўда.

* * *

*W każdej klasie znajdzie się prymus, który zauważy, że na przykład granice Polski sięgają po rozejmie w Dywilinie i pokoju polanowskim sto kilometrów za Smoleńsk i niemal do Morza Czarnego. Jest oczywiste, że ziemie te oddały nam się we władanie spontanicznie i z własnej nieprzymuszonej chęci. I każdy czternastolatek wie, że zadecydowała o tym nasza wyższość kulturalna. Polacy nigdy nie byli agresywni — taką myśl sformułował ostatnio Henryk Goryszewski. Tego samego uczyły podręczniki z okresu międzywojennego, to samo perswadowano w komunistycznej szkole i to samo wykłada się dzisiaj w IV Rzeczypospolitej. Polacy zawsze byli pacyfistami, a okrucieństwem się brzydzili, zawsze napadani i krzywdzeni niewinnie.*

*Polityka, nr 28*

Пішуць пра гэта не толькі ў падручніках для школьнікаў і студэнтаў, але таксама і ў беластоцкіх газетах, а асабліва ў перыядычным выданні „Rubieże", дзе даказалі нават, што нейкі „Буры" — гарцэр з Віленшчыны — нявінна пацярпеў з рук беларускіх шавіністаў — жыхароў вёсак Зані, Залешаны, Шпакі...

* * *

*Prezydent Aleksander Łukaszenko osobiście za pośrednictwem radia i telewizji odczytał tematy egzaminów wstępnych na wyższe uczelnie. Temat dowolny był — „Moja Ojczyzna".*

*Gazeta Wyborcza, nr 166*

Айчынай гаспадзіна Лукашэнкі, як вядома, быў і ёсць Савецкі Саюз. Ці-

# З мінулага тыдня

**Пасол Расеі ў Польшчы Юрый Кашлеў** выказаўся за аднаўленне ў Зялёнай Гуры фестывалю песні народаў былога СССР. Падчас сустрэчы ў Таварыстве „Польшча—Усход" у Зялёнай Гуры пасол сказаў, што было б добра, каб традыцыя фестывалю савецкай песні была ўзноўлена. Юрый Кашлеў прыгадаў, што Зялёна Гура была калісьці вядомая ў Савецкім Саюзе дзякуючы фестывалю. Апошні фестываль адбыўся ў 1990 годзе.

**Яцэк Курань** — старшыня Сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцей — заявіў, што ў сувязі з выбарчай прэзідэнцкай кампаніяй адмаўляецца ад выконвання ўсіх дадатковых публічных функцый апрача дэпутацкіх абавязкаў.

**У Ломжы** адбылася ўрачыстасць узнагароджання ветэранаў Чырвонай Арміі з гэтага ваяводства з выпадку 50-годдзя перамогі над фашызмам. Былым чырвонаармейцам медалі ўручыў саветнік пасольства Расейскай Федэрацыі **Барыс Шардакоў**, які сказаў, што прысвоеныя адзнакі — гэта перш за ўсё паклон і падзяка для ўсіх, незалежна ад нацыянальнасці, дзякуючы якім магчымай была перамога і мір.

**Беластоцкая „Салідарнасць"** арганізавала адпачынак для сарака дзяцей з Магілёва. Трэцяя па чарзе пабыўка беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны — гэта вынік супрацоўніцтва беластоцкага і магілёўскага свабодных прафсаюзаў. Арганізатарам адпачынку дапамог таксама архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. У час двухтыднёвага знаходжання магілёўскія дзеці пазнаёміліся з цікавымі мясцінамі Беласточчыны і прайшлі медыцынскае абследаванне.

**Ватра'95** — трохдзённы фестываль лэмкаўскай культуры адбыўся ў Здыні, што ў Новасандэцкім ваяводстве. У штогадовым мерапрыемстве ўдзельнічала каля 15 тысяч лэмкаў, якіх у 1947 г. высялілі адсюль у рамках акцыі „Вісла". Паглядзець выступленні фальклорных калектываў прыехалі лэмкі з усіх куткоў Польшчы, а таксама з Украіны, Славакіі і Канады.

**Госцем фэстынаў БГКТ у Гайнаўцы і Орлі**, падчас якіх выступалі эстрадныя беларускія калектывы з Беласточчыны, быў генеральны консул РБ у Беластоку **Міхаіл Слямнёў**. Мерапрыемствы ўдастоілі таксама парламентарыі, а гайнаўскае свята — дэлегацыя гарадскіх улад Свіслачы.

**Жыхары вёсак Круглае, Багны і Грабяні**, што ў Дуброўскай гміне, у рэферэндуме выказаліся супраць якіх-небудзь змяненняў у назвах іх мясцовасцей (Krugło, Bagny, Grzebienie). Рашэнне жыхароў гэтых мясцовасцей падтрымалі радныя Гарадской рады ў Дуброве-Беластоцкай.

**Зямля на Беласточчыне** самая танная ў краіне. У гэтым годзе за гектар трэба ў нас у сярэднім заплаціць 372 злоты, затое ў ваколіцах Варшавы гектар каштуе амаль у 20 разоў больш, бо 6677 злотаў. У Беластоцкім ваяводстве ўжо ад гадоў няма зацікаўлення набываннем зямлі.

**Турысты баяцца Белавежы.** Сёлета Белавежу наведала на 11 тысяч турыстаў менш, чым у аналагічным перыядзе мінулага года (адпаведна 32 і 43 тысячы ад пачатку года). Прычынай такой сітуацыі стала неабаснаваная боязь перад кляшчамі.

**У Дуброве-Беластоцкай** здадзена ў карыстанне ачышчальня сцёкаў, якая за суткі зможа пазбавіць забруджанняў 1 500 кубаметраў вадкіх нечыстотаў.

**У Крынках** падчас ачысткі сцёкавага канала ў прыватнай гарбарні дайшло да трагедыі. Калі адзін з рабочых, які апусціўся ў септык, абамлеў на дне, з дапамогай яму паспяшылі другі рабочы і ўласнік майстэрні. Усе трое памерлі ад атручэння ядавітымі парамі квасаў, якія накапіліся ў басейне з нечыстотамі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „ЦІВЕ"

> Як Беларусь святкавала гадавіну незалежнасці.

> Хто забіў Зіну? — Міра Лукша высвятляе гісторыю пяцідзесяцігадовай даўнасці.

> Беларускія фэсты ў Гайнаўцы і ў Орлі.

> Матыў роднай хаты ў паэзіі Алеся Барскага.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прэс-канферэнцыя З. Пазьняка

Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк правёў двухгадзінную прэс-канферэнцыю ў Магілёве. Ён прыбыў сюды на закрыццё III Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі „Магутны Божа" і выкарыстаў магчымасць для сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Цяперашнюю сітуацыю ў рэспубліцы Зянон Пазьняк ахарактарызаваў як неспрыяльную ні для эканомікі, ні для культуры, ні для дэмакратыі. Адказваючы на пытанне аб выніках апошняга з'езда БНФ, ён падкрэсліў, што ніякага расколу і раздзялення народнага фронту не адбылося. „Сілу БНФ мы бачым у яго адзінстве і наша палітыка — захаваць гэта адзінства", адзначыў Зянон Пазьняк. Гаворачы аб маючых адбыцца выбарах у Вярхоўны Савет, ён прызнаўся, што калі восенню яны будуць такія ж як вясной, то БНФ на іх не пераможа. Аднак канчатковае рашэнне аб удзеле БНФ у восеньскіх выбарах пры́ме Сойм.

## Самотная галадоўка

Старшыня Магілёўскай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў Беларусі Сяргей Абадоўскі аб'явіў галадоўку пратэсту каля завода „Зеніт" у Магілёве ў сувязі з тым, што сябрам прафсаюза і рабочым завода своечасова не выплачваецца заработная плата. Спадар Абадоўскі заклікаў „зенітаўцаў" не пачынаць працу пакуль усё не будзе выплачана згодна з калектыўнай дамоўленасцю, а таксама арганізаваць марш-пратэст да Дому саветаў і запатрабаваць ад бацькоў горада і вобласці тэрміновай выплаты затрыманай зарплаты. Увогуле завод „Зеніт" атрымаў вядомасць у горадзе шматлікімі акцыямі пратэсту сваёй суполкі Свабодных прафсаюзаў, якая налічвае 400 сябраў з 1 700 працуючых. Менавіта па яе ініцыятыве за апошнія два гады былі зняты з пасады два дырэктары. Новы дырэктар узначальвае „Зеніт" чатыры месяцы і ўжо атрымаў рэпутацыю таленавітага вытворцы, які шмат робіць, каб выцягнуць завод з канверсійнай багны. Аднак рабочыя не адчуваюць гэтага ў сваіх кішэнях — не атрымалі зарплаты за палову мая і за чэрвень. Раней не было ні працы, ні грошай, цяпер працы зашмат, а грошай па-ранейшаму няма. Аднак галадоўку лідэра Свабодных прафсаюзаў дырэктар „Зеніта" называе папулісцкім шумам і гульнёй на публіку. Ён лічыць, што фінансавае становішча завода палепшылася, бо ёсць работа і ёсць надзея. Людзі гэта добра разумеюць і мяркуюць, што лепш дрэнна працаваць за капейкі, чым наогул страціць працу. Таму і не бачна асаблівай увагі працоўных „Зеніта" да галадоўкі за іх дабрабыт Сяргея Абадоўскага.

## Ганаровы консул

Першы ганаровы консул з'явіўся ў Беларусі. Ім стаў спадар Эрнст Готліб Губман, які будзе прадстаўляць інтарэсы Швейцарыі ў Менску. Яго прадстаўленне адбылося падчас сустрэчы намесніка міністра замежных спраў Андрэя Саннікава з паслом Швейцарскай Канфедэрацыі ў Рэспубліцы Польшча Жанам Аліўе Кэншам, акрэдытаваным па сумяшчальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь. Пан Губман сказаў, што на першапачатковым этапе яго дзейнасці швейцарскія візы для грамадзян Беларусі будуць па-ранейшаму выдавацца ў швейцарскім пасольстве ў Варшаве. У далейшым прадугледжваецца спрасціць парадак атрымання швейцарскіх віз. Грамадзяне Беларусі могуць падаваць заяўкі непасрэдна ў офіс ганаровага консула.

## Непатрэбны фонд

Беларускае аддзяленне Фонду Сораса спыніла фінансаванне асобных праграм у галіне навукі, медыцыны, адукацыі і культуры на суму каля пяці мільёнаў долараў ЗША. Асноўнай прычынай такога рашэння з'яўляецца неўключэнне гэтага фонду ў спіс дабрачынных арганізацый у Беларусі, сродкі якіх не падлягаюць падаткаабкладанню.

## Беларускія Грабельныя

Маскоўскі міжраённы аддзел падатковых расследаванняў горада Менска пачаў крымінальную справу супраць кіраўнікоў закрытага акцыянернага таварыства „Белінкампрос". Гэтая фірма, якая абяцала высокія працэнты, вывудзіла ў насельніцтва сотні мільёнаў рублёў і знікла. Узбуджана і крымінальная справа супраць таварыства з абмежаванай адказнасцю „Белінкамтраст". Ні першае, ні другое таварыствы не мелі ліцэнзіі Нацыянальнага банка на прыём грашовых сродкаў ад насельніцтва. Цяпер Нацбанк намерваецца правесці тэрміновую перарэгістрацыю камерцыйных структур, таму што многія з іх працуюць нелегальна.

## Паляванне на „зайцоў"

Змаганне з транспартнымі „зайцамі"-безбілетнікамі аб'яўлена ў Ляхавічах. Тут у грамадскім транспарце, як у былыя часы, з'явіліся кандуктары. І вось вынікі новаўвядзення: калі раней вадзіцель аўтобуса прадаваў за месяц праязных талонаў на мільён рублёў, то цяпер гэта сума збіраецца за тыдзень.

 

# Лявон Тарасэвіч у Галерэі Фоксаль

Усім аматарам мастацтва, асабліва прыхільнікам творчасці нашага земляка **Лявона Тарасэвіча**, паведамляю, што да 28 жніўня г.г. маюць яны магчымасць паглядзець чарговую выстаўку яго работ, якія экспануюцца ў варшаўскай Галерэі Фоксаль. Гэтым разам наш вядомы ўжо ва ўсім свеце зямляк прэзентуецца на супольнай выставе з двума іншымі індывідуальнасцямі польскага жывапісу. Гэтых трох мастакоў аб'ядноўвае той факт, што — на думку спецыялістаў — кожны з іх на свой спосаб зведаў праблему *трансфармацыі пейзажу ў карціну*. Вынікам гэтага з'уляюцца іх палотны, якія знаходзяцца *на грані абстрактнасці* (але яе не перасякаюць), якая ў памяці гледача адклікаецца да *рэфлексаў* і выяўляе энергію простых колераў.

І так, **Томаш Цяцерскі** (народжаны ў 1945 г.) работу над карцінамі дзеліць на два этапы: спачатку малюе вялікую колькасць алейных карцін, якія звычайна прадстаўляюць спрошчаны від пустога пейзажу, раздзеленага лініяй гарызонта. Затым, шляхам аб'ядноўвання і частковага напластвання на сябе гатовых карцін, стварае цэласць. Кожная з гэтых карцін змяшчае ў сабе схаваны ад гледача фрагмент, які заадно з'яўляецца для яго свайго роду загадкай.

На два гады маладзейшы **Томаш Татарчык** цэлыя серыі карцін прысвячае выбранаму фрагменту краявіду, які нярэдка набывае метафарычны характар. Апошні цыкл — гэта палотны, якія прадстаўляюць падабраныя кадры перспектыў дарог. Шляхам напластвання фарбаў мастак праводзіць аналіз як прымяняемых сабою спосабаў малявання, так і прэзентаванай тэмы.

* * *

Калі ў ліпеньскі, спякотны поўдзень наведаў я Галерэю Фоксаль, яе ветлівы гаспадар, водзячы мяне па выстаўцы, многа расказваў пра пачаткі мастацкай кар'еры Лявона Тарасэвіча. Гаварыў таксама і аб тым, што свае карціны выстаўляў ён ужо амаль па ўсім свеце (між іншым у Берліне, Амстэрдаме, Нью-Йорку і Тэль-Авіве), але жыць і ствараць іх відавочна можа толькі ў родных — мяжуючых з Беларуссю — **Валілах**, нягледзячы на неразуменне іх тамашнімі сялянамі (а гэта лёгка растлумачыць) і на адсутнасць зацікаўлення яго творчасцю з боку беластоцкіх сродкаў масавай інфармацыі (відаць, „замнога" ў іх беларускасці, з якой адназначна атаясамліваецца Лявон Тарасэвіч).

Мой чычэроне ведае амаль усё аб тым, што — дзякуючы грамадскай актыўнасці Л. Тарасэвіча — дзеецца ў яго Валілах-Высранках і ва ўсёй тамашняй гміне. Таксама і аб тым, што мастак купіў ды прыгожа адрамантаваў і абсталяваў апусцелы школьны будынак (не стала вучняў, бо разам з бацькамі пераехалі раней у гарады), абгарадзіў школьны пляц і напоўніў іх мастацкім жыццём і птаствам. Скромны спачатку статак галубоў пераўтварыўся з часам у найбольшую на ўсход ад Віслы ферму рэдкіх птушак: фазаноў, паўлінаў, папугаяў, кітайскіх качак і курачак.

Выслухаўшы гэтую інфармацыю, пакідаю галерэю з упэўненасцю, што культурнае спусташэнне ўсходняй Беласточчыны стрымлівае ўзрастанне там і сям такіх моцных творчых індывідуальнасцей як Лявон Тарасэвіч у Валілах і Сакрат Яновіч у Крынках (якія нядаўна меў я гонар наведаць, карыстаючыся гасціннасцю спадарства Яновічаў).

**Міхал Занчэўскі**

# Квасьнеўскі ў Гайнаўцы

Першы кандыдат у прэзідэнты Рэчы Паспалітай Аляксандр Квасьнеўскі наведаў у чэрвені г.г. Гайнаўку. Паўтары гадзіны людзі чакалі лідэра СЛД. Гайнаўку наведаў Квасьнеўскі быццам па дарозе з Белавежы, дзякуючы стараннем мясцовай СДРП. Квасьнеўскі — старшыня Канстытуцыйнай камісіі ў Сейме, быў запрошаны на канферэнцыю канстытуцыйных кафедр польскіх універсітэтаў, якая якраз адбывалася ў Белавежы.

Чакаючых кандыдата ў прэзідэнты каля пяцісот чалавек у найбольшай зале Комплекса прафесіянальных школ прывітала Данута Ванек, старшыня выбарчага штаба А. Квасьнеўскага. Заявіла яна, што ўсе спатканні перад афіцыйным выбарчым тэрмінам — збор інфармацыі і патрабаванняў народа ад будучага прэзідэнта і што выбарчая праграма А. Квасьнеўскага будзе згодная з праграмай СЛД, а заданні прэзідэнта — згодныя з Канстытуцыяй Рэчы Паспалітай. Пані Ванек прасіла задаваць ёй пытанні, але слухачы „трымалі" іх для самога Квасьнеўскага. Першы голас узяла гаспадыня Гайнаўкі — Ядвіга Рудзінска-Патэюк ды прасіла перадаць яе заўвагі парламенту і цэнтральным уладам: каб дэкрэты былі згодныя з духам і правам закона. Як прыклад нязгоднасці з правамі самаўрадаў ёсць накінутая зверху пастанова аб выплачванні дадаткаў на кватэры для найбяднейшых жыхароў гарадоў; калі і колькі аддасць выдадзеныя самаўрадамі грошы Міністэрства будаўніцтва, невядома. Другім такім законам ёсць наказ пераняцця ад новага года пачатковай асветы самаўрадамі. — Чаму цэнтральныя ўлады не прытрымоўваюцца прынцыпаў аўтаноміі і суверэннасці самаўрадаў? — пытала бургамістр Гайнаўкі. — Шыкуюцца новыя наказы, на жаль, кіраваныя з цэнтра, напрыклад такі, каб усю Белавежскую пушчу замяніць у запаведнік. А што будзе з жыхарамі? — хвалявалася сп. Я. Рудзінска-Патэюк.

Урэшце прыбыў А. Квасьнеўскі. Прасіў прысутных прабачэння за спазненне і адразу ўзяўся адказваць на пытанні. Найбольш іх накіроўваў да паслоў — М. Пецкі і С. Плевы. Былі пытанні зусім несур'ёзныя, былі і прадуманыя, істотныя, поўныя турботы за горад, яго жыхароў, перспектывы моладзі. Чаму няма грошай на абсталяванне новага шпіталя, на ўтрыманне якога ідзе шмат такіх патрэбных грошай? Квасьнеўскі не мог даваць адразу абяцанні дапамогі. На гэта трэба каля 90 мільёнаў старых злотаў...

Чаму Міністэрства фінансаў не згадзілася адкрыць Фінансавую палату і суд? А. Квасьнеўскі звярнуў увагу прысутных на накірунак прац над рэформай адміністрацыі — тады натуральна ўвойдзе гэтак званая спецыяльная адміністрацыя.

Прысутных найбольш цікавіла выбарчая праграма кандыдата ў прэзідэнты. А. Квасьнеўскі сфармуляваў яе ў чатырох пунктах: 1. Узмацненне дэмакратыі, падтрыманай сучаснай канстытуцыяй; 2. Стварэне такой гаспадаркі, дзе знайшліся б месцы працы для беспрацоўных, дзе было б больш грошай у нацыянальным бюджэце, прызначаных між іншым на дапамогу і сацыяльныя інвестыцыі; 3. Узмацненне самакіруючагася грамадства — больш правоў і грошай для самаўрадаў; яны на сваім і ў сябе найлепш ведаюць, як, калі і на што гэта выкарыстаць; 4. Узмацненне Польшчы на міжнароднай арэне, уваход у Еўрапейскую Унію і НАТО. Апрача таго А. Квасьнеўскі за: аддзяленне спраў дзяржавы ад касцёла (для ўсіх веравызнанняў — адолькавыя правы, веравызнанне — асабістая справа чалавека). Былі пытанні і пра справы агароднікаў, але пра нацыянальныя меншасці не запытаўся ніхто.

Які іншы кандыдат у прэзідэнты прыедзе ў Гайнаўку і чым спрабуе прыцягнуць электарат, пабачым.

**Міхал Голуб**

# Прадшколле

*Працяг са стар. 1*

не трэба было мець з Аддзелам асветы, культуры і спорту Гарадской управы ў Беластоку. Афіцыйнае прашэнне аб стварэнні ў Беластоку польска-беларускага самаўрадавага прадшколля накіраванае было прэзідэнту Беластока 17 красавіка гэтага года. У той час арганізатары мелі на сваіх спісках 40 ахвотных у прадшколле.

— *Паколькі Гарадская ўправа не магла ўхіліцца ад акцэптацыі нашага праекта,* — сказала Барбара Пякарская, якую запытаў я пра шлях да беларускага прадшколля, — *то ў мяне склалася ўражанне, што тая ж Управа не прыклала асаблівага намагання, каб наша прадшколле было самастойнай установай.*

Яшчэ ў чэрвені г.г. арганізатараў прадшколля ў Гарадской управе запэўнівалі, што вядзецца настойлівы пошук адпаведнага для ўстановы памяшкання, але фармальная пастанова Управы, якая зацвердзіла праект — датаваная 31 мая. Гаворыцца ў ёй пра два мешаныя аддзелы 3—4-годкаў і 5—6-годкаў пры прадшколлі нумар 14 на вуліцы Пілсудскага 20/4 у Беластоку.

Асобнае пытанне — гэта забеспячэнне гэтых двух аддзелаў у педагагічную кадру. Кандыдаты пачалі з'яўляцца зараз пасля першых вестак пра прадшколле, якія пайшлі па радыё. Усіх агулам хапіла б, каб насадзіць цэлае самастойнае прадшколле — ад дырэктара і кухоннай дапамогі па бухгалтара з прыбіральшчыцай.

Кандыдатаў у педагогі канчаткова аказалася дзесяць. Было для іх праведзена нешта накшталт кваліфікацыі. Пытанні датычылі разнастайных арганізацыйна-педагагічных аспектаў прадшколля, навучання ў прадшколлі элементаў беларускасці, папярэджвання неталерантнасці з боку іншых дзяцей, а нават — *на якой мове папінны нашы дзеці завучаць малітвы*. Канчаткова выбраны былі чатыры асобы, погляды і аргументацыя якіх найбольш трапілі да экзаменатараў: **Эва Гняздоўская, Люцыя Немяровіч, Альжбета Бурачэўская і Альжбета Чыжэўская**. Усе з вышэйшай педагагічнай адукацыяй і веданнем беларускай літаратурнай мовы. Заняткі ў прадшколлі маюць рушыць з пачаткам навучальнага года.

Прышчапленне дзецям пачуцця нацыянальнай тоеснасці ва ўмовах меншасці спараджае не найлягчэйшыя для вырашэння праблемы. Несумненна адно — самі бацькі ў змозе і павінны навучыць сваіх дзяцей роднай мовы. Тое, аднак, што падштурхнула групу бацькоў да стварэння польска-беларускага прадшколля ў Беластоку, гэта, перш за ўсё, брак упэўненасці, ці хатняя навука будзе трывалай, калі дзеці акажуцца па-за бацькоўскім наглядам, у польскім асяроддзі. Ёсць адчуванне, а лепш сказаць — спадзяванне, што трываласці гэтай можа паспрыяць якраз арганізаваная форма адукацыі, дзе не толькі самі дзеці ў сваім гурце будуць гаварыць па-беларуску, але мова гэтая будзе гучаць перад усім з вуснаў паняў-настаўніц.

Не пазбаўлена рацыі і іншае сцвярджэнне — наша беларускасць моцна абумоўлена мацаваннем і прэстыжам самой Беларусі, як дзяржавы. Тая, аднак, сваё слова сказала. А якімі будуць нашы дзеці? А праз іх і мы самі.

**Аляксандр Максімюк**

__У Сідры__

## Шукаюць працу

Зараз у **Сідранскай гміне** астаецца без працы 13% усяго насельніцтва. Няма занятку для 320 чалавек, у тым ліку для 191 мужчыны і 129 жанчын. Найбольш беспрацоўных ва ўзросце 18—30 гадоў. У канцы 1994 года зарэгістраваных было 314 асоб. У чэрвені гэтага года да групы беспрацоўных дайшло яшчэ 17 выпускнікоў сярэдніх школ.

— Намагаемся гэтым людзям у нейкісьці спосаб дапамагчы. У мінулым годзе ўдалося, дзякуючы розным захадам, даць працу з інтэрвенцыйнага фонду для 33 чалавек, — гаворыць войт Андрэй Сутkoўскі. — Ведаю, што гэта не спосаб на вырашэнне праблем беспрацоўя. Тут неабходна шукаць доўгатэрміновыя развязкі. Але гэта залежыць ад дзяржаўнай палітыкі, а не толькі ад гмінных вырашэнняў.

Цяпер у гміне дапамогу па беспрацоўю атрымоўвае 234 чалавек, а права на яе страціла 86. Да інтэрвенцыйных работ накіравалі 17 чалавек і да публічных — 5. Неўзабаве можна будзе знайсці сабе працу ў мясцовым Прадпрыемстве абслугоўвання камунальнай і жыллёвай гаспадаркі, якое будзе выконваць паслугі для насельніцтва ў значна шырэйшым маштабе.

**Янка Целушэцкі**

# „Дыскусія" н-р 8

Паказаўся ў продажы чарговы — 8 — нумар часопіса „Дыскусія". Асаблівасць гэтага выдання заключаецца ў тым, што рэдагуецца яно маладой беларускай інтэлігенцыяй з Варшавы і палякамі з Таварыства „Памост". „Дыскусія" не толькі з-за складу рэдакцыі называецца беларуска-польскім часопісам, але таксама з увагі на яго двухмоўе і змест, прысвечаны беларуска-польскім суадносінам. Сябры рэдакцыі — Яраслаў Іванюк (галоўны рэдактар), Міхал Куркевіч, Моніка Плютэцка, Томаш Шчапаньскі, Уладзімір Пац — ствараюць часопіс грамадскім чынам. Фінансавыя сродкі на друк збіраюць яны з розных крыніц і не заўсёды знаходзяць іх у адпаведным часе. Па гэтай прычыне „Дыскусія" паказваецца вельмі нерэгулярна. У апошнім нумары рэдакцыя змясціла аналіз Міхала Куркевіча пра геапалітычную сітуацыю Беларусі пасля рэферэндуму і выбараў, размову Яраслава Іванюка з Браніславам Герэмкам, працяг эсэ Сакрата Яновіча пра старабеларускую літаратуру, артыкул Ніны Баршчэўскай пра ролю гаворак у развіцці беларускай літаратурнай мовы ў XIX стагоддзі, нарыс Крыстыны Гамулкі пра нацыянальную свядомасць беларусаў у II Рэчы Паспалітай, разважанні Алега Латышонка пра ролю беларускіх пратэстантаў у развіцці нацыянальнай ідэі і рэцэнзіі на кніжкі, якія паказаліся апошнім часам у продажы і якія прысвечаны беларускім справам. Змест часопіса і спосаб рэдагавання паказваюць, што „Дыскусія" адрасаваная перш за ўсё польскаму чытачу. Няма сумнення, што рэдактары імкнуцца будаваць масты паміж палякамі і беларусамі, разбураюць міфалагічны вобраз Беларусі, асвятляюць усе складанасці мінулага і сённяшняга дня нашага народа. Найважнейшае, што стараюцца пісаць без упрыгожвання рэчаіснасці. Паколькі аднак у палякаў не відаць амаль ніякага зацікаўлення беларускімі справамі, „Дыскусія" можа мець вельмі абмежаваны круг чытачоў.

рэд.



 

*Мікола Ваўранюк*

# Урляняты — радзіма Станкевічаў

Невялікая вёска Урляняты на Ашмяншчыне дала беларускай культуры Станкевічаў: **ксяндза Адама** — асветніка, царкоўнага ды грамадска-палітычнага дзеяча; **Янку** — навукоўца-філолага, выдаўца і дзеяча, **Станіслава** — літаратуразнаўца, публіцыста, рэдактара газет „Бацькаўшчына" і „Беларус". У міжваеннай Вільні быў яшчэ адзін **Станіслаў Станкевіч** — грамадскі дзеяч і кнігар. Усе яны былі між сабою, так ці іначай, зродненыя.

Урлянят на картах Беларусі няма. Спачатку трэба знайсці Баруны, сядзібу прыхода, да якога належыць гэтая каталіцкая, хоць і татарскага паходжання, вёсачка. З карты відаць, што з Менска трэба ехаць шашой на Вільню, пакінуўшы яе каля Крэва. „У Крэве мус паглядзець шыкоўныя руіны", — намаўляе менскі сябрук-гісторык.

### Руіны і сапраўды шыкоўныя.

Уражваюць сваёй веліччу. Калі яшчэ забыцца на акружэнне і запусціць уяўленне ў часы першай палітычнай уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчаю... Аднак над слаўным мінулым валадарыць бедная рэчаіснасць. А гэта, між іншым, дзіравая гравійка з Крэва ў Баруны, на якой магутны грузавік падымае туманы пылу. Едзем за ім — засвяціўшы фары — дваццаць кіламетраў у гадзіну і прыгожых краявідаў дадумоўваемся ано па стромых пад'ездах і крутых з'ездах.

Над драўлянымі Барунамі пануе велічны касцёл св.св. Пятра і Паўла. Папярэдняга дня было прыхадское свята, дык ксёндз павёз гасцей — аднаго ксяндза і манашку — у Вільню. Прывітаў нас малады клерык — добрай беларушчынай. Паказаў касцёл, крыху расказваў пра сітуацыю, пра Гродзенскую каталіцкую семінарыю, дзе ён вучыцца. Сам ён не з Барун, хаця паводле яго вызначэння, „з ваколіцы". Пра Станкевічаў, аднак, нічога не чуў, нават дакладна не ўмеў растлумачыць, дзе тыя Урляняты.

За касцёлам кляштарныя будынкі. Да вайны жылі там сёстры-кармеліткі. У 1939 годзе саветы манашак разагналі. На плябаніі жыве яшчэ адна 85-гадовая сястра, якая вярнулася ў Баруны, каб дапамагаць ксяндзу. Яе польская мова без ніякага ўсходняга акцэнту. Выяўляецца, што яна з Острава-Велькапольскага. Памятае да-

*Працяг на стар. 9*

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Прыход немцаў

У пятніцу 27 чэрвеня 1941 г. Стоўбцы і наваколле занялі нямецкія войскі. Пад вечар перасяклі яны старую польска-савецкую мяжу і захапілі Койданава (Дзяржынск) разам з ваеннымі жалезабетоннымі збудаваннямі, якія цягнуліся аж да Ракава. Пасля некалькіх дзён праз гэтую абаронную лінію намагаліся прабіцца нейкія савецкія акружаныя падраздзяленні. Прабіваліся яны з Літвы ў напрамку Менска. На ўмацаванай бункерамі і занятай ужо немцамі лініі дайшло да жорсткіх баёў. Некалькі дзён савецкія дывізіі бесперапынна штурмавалі захопленую немцамі рубеж. Было многа забітых і параненых, а некалькі тысяч савецкіх салдат здалося ў палон, асабліва ў вёсках Рубяжэвічы, Ражанка, Засулле, Адцэда і Яблынаўка.

На хутары вёскі Яблынаўка жыў селянін Цімафей Карповіч. Яго сядзіба знаходзілася побач дзяржаўнага лесу, на ўрочышчы Кабыліна Даліна, пры дарозе ў Засулле. У хату Карповічаў увайшлі дзевяць афіцэраў і генерал, які загадаў гаспадыні падрыхтаваць ім сняданак, а гаспадару даў запіску і сказаў, каб той падаўся ў Адцэду, дзе былі ўжо немцы, і перадаў пасыльку першаму напатканаму афіцэру. Цімафей Карповіч заданне выканаў. Немцы запатрабавалі, каб ён паказаў, дзе знаходзіцца генерал са сваімі афіцэрамі. Неўзабаве на хутар заехалі тры нямецкія легкавыя аўтамабілі. Салдаты акружылі панадворак, а афіцэры сталі ісці ў напрамку хаты. Тады з дома выйшаў савецкі генерал, а за ім астатнія афіцэры. Дзіўным Карповічу здалося, што саветы не паднялі рук уверх, а немцы іх увогуле не рэвізавалі. Здалі яны толькі свае пісталеты, селі ў машыны і паехалі ў нямецкі гарнізон. Ніхто з мясцовых не ведаў, што ў сапраўднасці сталася з генералам і ягонымі афіцэрамі. Хадзілі толькі чуткі, што генерал (праўдападобна называўся ён Кулік) быў камандзірам савецкай дывізіі, якая прабівалася з акружэння з напрамку Літвы праз Ліду і Навагрудак да Менска. Гэтая дывізія пасля некалькіх спроб прарвацца праз абаронную лінію ў раёне Рубяжэвічы—Ражанка— Засулле апынулася каля вёскі Адцэда. Пры спробе здабыцця вёскі загінула шмат салдат і афіцэраў. На лугу паміж Адцэдай і Кучкунамі вяскоўцы знайшлі трох забітых афіцэраў, якім стралялі ў плечы. Відаць, чырвонаармейцы самі стралялі ў сваіх камандзіраў.

Жыхары шматлікіх вёсак прывіталі нямецкіх салдат хлебам-соллю. Так было ў Арцюхах, Адцэдзе, Сверанаве, Засуллі, Ражанцы ды іншых. Да вызваючых сялян немцы ставіліся памяркоўна. Салдаты давалі дзецям цукеркі, распытвалі вяскоўцаў пра членаў камуністычнай партыі і камсамольцаў. Пасля некалькіх дзён акупацыйныя ўлады пачалі вярбоўку мясцовых жыхароў у паліцыю. Добраахвотна ў органы парадку ўступаюць беларусы і палякі. Тыя апошнія займаюць кіруючыя пасты — камендантаў раённых, гмінных ці вясковых пастарункаў. Ствараюцца таксама самаўрадавыя органы, якія ўзначальваюцца палякамі.

Немцы ўводзяць свае падаткі, гэтак званы кантынгент. Трэба было здаваць акрэсленую колькасць збожжа, бульбы, мяса і малака. Аднак усе гэтыя падаткі былі напалову меншыя за савецкія.

### Зноў у сёмым класе

У верасні 1941 г. адчыняюцца школы розных тыпаў з беларускай мовай навучання. Хутка выявілася, што школам не хапае настаўнікаў беларускай мовы. У такой сітуацыі асветныя ўлады арганізавалі трохмесячныя курсы для моладзі, якая мела закончаны польскі сёмы клас і пры саветах былі пераведзены ў пяты. З майго класа на курсы падаліся: Ядвіга Сайкоўская, Марыя Снацкая, Рыгор Стрытула, Уладзімір Капуста, а таксама сябра майго брата Язэпа — Аркадзь Садоўскі з Яблынаўкі.

А я зноў падаўся ў школу, каб скончыць сёмы клас. Змяніўся школьны абрад. Цяпер урокі пачыналіся і заканчваліся малітвай на беларускай мове. Калі настаўнік уваходзіў у клас, усе вучні падымаліся з месцаў, а ён, прыўзнімаючы правую руку ўверх, гаварыў: „Жыве Беларусь!" Школьнікі тады паўтаралі жэст настаўніка і адказвалі хорам: „Жыве!" Абавязковым прадметам, вядома ж — акупацыя, была нямецкая мова: дзве гадзіны ўдзень.

Падчас нямецкай акупацыі ў школе стварылася маладзёжная арганізацыя — Саюз беларускай моладзі. Яе заснавальнікам стаў дырэктар школы Іван Іванавіч Кот — беларус па нацыянальнасці (у 1945 г. НКУС арыштавала яго, загінуў у 1948 г. на Калыме). На сходах моладзь заўсёды спявала гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а нацыянальным святам стала 25 Сакавіка. Незалежна ад легальнай дзейнасці ў школьным гуртку СБМ, сябры гэтай арганізацыі вялі таксама падпольную работу — шукалі па лясах пакінутую зброю. У выніку прыдбалі дваццаць стрэльбаў і адзін ручны кулямёт. У падпольнай групе было нас пятнаццаць сяброў. Нашым намерам было змагацца за поўнае вызваленне Беларусі ад нямецкіх і бальшавіцкіх захопнікаў.

У 1942 г. удалося мне закончыць сёмы клас і здаць экзамен у гімназію ў Стоўбцах, але вучыцца ў ёй ужо мне не давялося. Па загаду акупацыйных улад трэба было ісці на работу.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

## АДГАЛОСКІ

### „Справа Яновіча"

Не павінна быць „справы Яновіча" („Ніва" н-р 29 ад 16.07.1995 г.), а павінна быць справа гістарычнай формы і двухмоўных назваў мясцовасцей. Павінны ў рэшце рэшт быць даўно ўжо ўведзены гістарычныя і двухмоўныя назвы на Беласточчыне. Гэта проста абавязак гмінных улад. Законы не забараняюць гэтага. Цікава, ці калі б улады гміны загадалі сваім „службам" павесіць двухмоўныя назвы мясцовасцей, то ці ў такім выпадку мелі б нейкую „справу"? На маю думку гэта не была б ужо справа ўлад гміны, а вышэйшых інстанцый, але найхутчэй усё скончылася б нічым.

На якой падставе Управа Рады Міністраў Рэчы Паспалітай загадала правесці плебісцыт наконт вяртання гістарычных назваў мясцовасцей? Гістарычныя назвы проста ўжываюцца штодзень і не трэба ніякай кансультацыі, каб гэта заўважыць. Натура ўраднікаў і служачых такая, што ён сам нічога не пастановіць без папяровай падкладкі, але гэта ўжо „справа" ўраднікаў, а не беларусаў Беласточчыны. Усе, пачынаючы ад начальніка гміны (гляндзі артыкул Міколы Ваўранюка „Бедных і кляшчы кусаюць" („Ніва" н-р 28 ад 9.07.1995 г.), а канчаючы на міністры, хочуць скінуць „справу" на простых беларусаў, жыхароў мясцовасцей, якіх яна датычыцца, каб мець выгадны аргумент. „Гэта ж не мы, гэта людзі дэмакратычна загадалі", — скажуць яны. Так, як „дэмакратычна" адцуралася роднай мовы, гістарычных сімвалаў, сваёй дзяржавы грамадства Беларусі.

У нас, значыць у беларусаў, грамадства можа прагаласаваць за тое, каб Ельцын быў царом Беларусі, а Цімашэвіч — князём Беласточчыны. У дэмакратычным грамадстве справы праводзяцца інакш, але ў беларуска-савецкім, ці беларуска-беластоцкім? Рукамі, можна сказаць, беларусаў улада звяла з усходняй Беласточчыны беларускае школьніцтва. Цяпер ад бацькоў залежыць стан беларускай асветы. Не трэба здзіўляцца людзям, што не згаджаюцца на адукацыю сваіх дзяцей па-беларуску, калі галоўны публіцыст тыднёвіка „Ніва" з Дубіч-Царкоўных некалькі гадоў таму назад пісаў, што ў Польшчы замнога магістраў і ад навукі толькі галава баліць.

Перш за ўсё трэба разбуджаць нацыянальную свядомасць сярод войтаў-беларусаў, тлумачыць ім, што гэта яны з'яўляюцца гаспадарамі сваіх гмін, а не Варшава. Ад іх залежыць многа, а тым болей двухмоўныя назвы мясцовасцей там, дзе жывуць беларусы. Трэба ім усвядоміць, што іх улада залежыць ад людзей, а не ад ваяводскіх ці сталічных ураднікаў. Думаю, што іх улада залежыць ад таго, што думаюць пра ўладу і беларускія арганізацыі. Ратунку для гмін напэўна не трэба шукаць у галоўнага каталіцкага дзеяча А. Стэльмахоўскага. А сваёй дарогай, цікава, чаму гмінныя ўлады ва ўсходняй Беласточчыне глядзяць на беларускія арганізацыі так, як бык на чырвоную плахту? Баяцца, што забяруць ім уладу? Ці наадварот, калі будуць добра „служыць" вышэйшым інстанцыям, то іх з пасад не зваляць?

**Міхась Куптэль**

P.S. Ці Мікола Гайдук, пра якога піша Аляксандр Вярбіцкі ў „Ніве" ад 2.07.1995 г., гэта той самы, які быў калісь дырэктарам Белліцэя ў Бельску, і які піша „Нашы карані" ў „Ніве"?

# МІЖМОРА

У днях 9—11 чэрвеня г.г. у Яраслаўі, што ў Пярэмышльскім ваяводстве, адбыўся II Кангрэс Лігі партый краін Міжмора. Першы з'езд прайшоў у Кіеве ў ліпені мінулага года. „Міжмора" ўдзельнікі кангрэса назвалі тэрыторыю паміж Балтыйскім і Чорным морамі, дзе знаходзяцца такія краіны, як Літва, Латвія, Эстонія, Беларусь, Польшча і Украіна.

Ідэя стварэння нейкай фармальнай інтэгруючай структуры краін гэтага абшару ўзнікла на пачатку дзевяностых гадоў адначасова ў Менску і ў Варшаве. Абедзве канцэпцыі моцна, аднак, ад сябе розніліся. Аўтарам першай быў лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк, які бачыў шанц на захаванне незалежнасці Беларусі толькі ў рамках цеснага так эканамічнага, як і палітычнага супрацоўніцтва з Украінай, Літвой і Латвіяй — краінамі, якія тады былі ў падобнай сітуацыі, як Беларусь. Пазьняк быў перакана765ы, што Расія раней ці пазней праігнаруе суверэнітэт Беларусі, і таму імкнуўся замацаваць незалежнасць дзяржавы ў нейкай шырэйшай структуры. Аргументамі за такім варыянтам былі яшчэ непарваныя эканамічныя сувязі паміж гэтымі краінамі з савецкага перыяду і прынятая Вярхоўным Саветам стаўка на палітычны і мілітарны нейтралітэт дзяржавы. З увагі на памяркоўнае зацікаўленне гэтай ідэяй толькі украінскай апазіцыі, не магла яна ажыццявіцца.

Другая канцэпцыя выйшла ад Канфедэрацыі незалежнай Польшчы, якая прапанавала стварыць шырэйшы палітычны блок з удзелам Польшчы. Федэрацыя павінна была б тады да межаў I Рэчы Паспалітай.

На апошнім кангрэсе ў Яраслаўі апрача Беларускага народнага фронту прысутнічала Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, а з польскага боку, апрача КПН, Рух III Рэчы Паспалітай і Польская рэспубліканская партыя. Прысутнічалі таксама адна партыя з Літвы — Нацыянальны саюз, і чатыры з Украіны — Дэмакратычная партыя Украіны, Ліберальная партыя, Украінская рэспубліканская партыя, Сацыял-дэмакратычная партыя Украіны.

Удзельнікі правялі аналіз палітычнай сітуацыі ў сярэдняй і ўсходняй Еўропе, звяртаючы ўвагу на паслядоўную ліквідацыю беларускай дзяржаўнасці і вайну ў Чачні як на вынік новай імперыялістычнай расейскай палітыкі.

У гаспадарчых справах удзельнікі кангрэса выказаліся за пашырэнне кантактаў паміж гэтымі краінамі, а таксама за стварэнне супольнага фронту супраць экалагічнай пагрозе. Ідэалам — паводле ўдзельнікаў — было б стварэнне такіх сувязей паміж Польшчай, Украінай, Літвой, Беларуссю і Латвіяй, якія існуюць паміж Бельгіяй, Галандыяй і Люксембургам.

Варта пры нагодзе звярнуць увагу, што не магла ажыццявіцца канцэпцыя пашырэння сувязей паміж краінамі г.зв. „Вышаградскай групы", хаця за такім варыянтам выказваліся прэзідэнты Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі. Перш за ўсё паўстрымоўвае гэты працэс бесперспектыўнасць эканамічнага развіцця і аб'яднаных у такім варыянце краін. Таму апошнім часам Польшча, Чэхія і Венгрыя з поўнай дэтэрмінацыяй імкнуцца ўвайсці ў заходнееўрапейскія структуры. Канцэпцыя „Міжмора" мае за сабой пэўныя гістарычныя традыцыі, але гэтага, здаецца, намнога замала, каб стварыць сёння нейкую палітычна-эканамічную супольнасць, нават пры ўмовах шырэйшага, чым цяпер, зацікаўлення палітычных эліт гэтых краін.

рэд

БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 427*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*

*МІРА ЛУКША*

* * *

Калі напішаш апошні верш
убачыш што літары як сухастой
хочуць паказаць табе і іншым лес
чорнай ссохлай азбукай галін і ветак
пустацвету збуцвелай кары і лістоты
лес адшумеўшы і вечна зялёны

Як пісаць верш першы і апошні
а ў белы дзень мароз кладзе
крышталёвыя іголкі на шыбе
недасягнуты і нетрывалы ўзор

*ЗОСЯ САЧКО*

**10**

похіляны над днём
хто заміэтіў того
з крылом стопяным
од сонця
в своюом городові
хто пророка прыняў
за пророка

нэ дівуй нічому

і дзісь
над дня рыкою
нэ станэ тішына
но всіэ мы гості
давно званы
но всіэ мы
гості жданы

*2.04—5.05.1994*

*БАРЫС РУСКО*

## Жаль

Полымя кранае душу.
І ты ля вогнішча.
Чырвань успамінаў тлее ўвесь час.
І няма змены.
Рэшта з'уляецца фонам.
Ці можна спяваць без мелодыі?
І жыць без сонца?
І сніць без веры?
Як многа значыць позірк сэрцам.
І дотык шэптам.
І крык маўчаннем.
Ёсць бясконцыя ўсходы.
Ёсць вечна жывыя кветкі.
Ёсць прага даступна, толькі каханню.

А я з'ўляюся коранем у каменнай
глебе лёсу.



Мал. Міколы Давідзюка

*ЕЖЫ ЛІТВІНЮК*

* * *

За сцяною гарадскою, ва ўрочышчы ўтульным,
спачываў пахаваны навек чалавек.
Вучні прасілі-малілі:
Настаўніку наш
Не хадзі туды, засмярдзеў нябога.

Будзе як будзе. І ўжо больш нічога.
Няхай спачывае ў векавечным спакоі.
Паўстане з магілы ён сам на Суд Божы...

О, Беларусь, уваскрэснеш раней!

*Пераклаў С. Яновіч*

*1995-05-25.*

**Заўвага:** *такімі паэтычнымі радкамі зрэагаваў на вядомыя падзеі ў Беларусі выдатны польскі перакладчык усходнеславянскіх літаратур і паэт Ежы Літвінюк з Варшавы.*

*ЮРЫ ПЛЮТОВІЧ*

## Калыханка

Цягнік чорны, ночы бель, калёс стукат блізкі.
Маладая, муж, пасцель, поўная сну міска.

Вэлюм белы, чорны снег, а хто ж той прахожы?
Адчытвае лёсу бег, праўдзіва варожысць.

Вартавыя сон і цень, ў сне галовы мокнуць.
Белы флаг плыве праз дзень і праз ночы вокны.

Пані ў сне, цвярозы госць, крыкі ціш трывожаць.
Куды едзе цягнік — лёс? Ніхто знаць не можа.

## Рака

Бераг. Сонечная вёска.
У сне іржалі коні.
У сне пясок у вуснах.
На другім беразе — сосны.

Паеду з драбінамі возам
праз зламаны мост.
Побач касцяка танка
з другой, файнай вайны.

Мой бацька падхарунжы
вернецца пасля крывацёку.

Ціхі шопат запалкі
за паўночным вакном.

Заклікаю каня,
луг, залаты бераг.
Заклікаю слова
каб яго верна сцерагчы.

Дзе зорка? Пад снегам.
Дзе язык? За зубамі,
Маці раніцай.
Бурыя ствалы сосен.

*Пераклаў Віктар Швед*

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# Шанц дачкі Поўха

Саветы атакавалі ад рэчкі Свіслач. Немцы адступалі ў Лапіцкія горы, пакінуўшы гарматы за мястэчкам, на Навічанскім выгане. Паліцаі навыганялі з хатаў жанок і мужчын капаць процітанкавыя равы паабапал гарадзенскай шашы, паміж Грабшавым млынішчам і мокрымі лугамі ў Разбойніку. Камандаваў буславаты нямчур, сівы ўжо і ў шапцы кшталтам сядла ды з кабурою на жываце. Ён смешна гаварыў па-руску: „Давайт, бабі, давайт!..”

Смаліла сонца. Ад палеткаў несла хлебнымі пахамі пераспелых жытоў. Людзі абліваліся потам; у зарэчны пукалі з вінтовак, а ў хмызах стукацеў кулямёт. У баку да Вялікай Берастаvіцы грымотна біла артылерыя і круціліся там у небе самалёты, адлятаючы ў дымна-белыя аблокі. Гарэлі хутары.

Антолін Болесь дастаў ад паліцая ў морду, калі закрычаў чагосьці і махануў рыдлёўкаю над галавою. Гэты дзівак і высалапень не мог жыць, не ўпароўшы якое дурноты. І, каб не свой нямецкі халуй, за нішто загавеў бы душою. Дапыталіся былі мужчыны потым: Болесь укапаўся ў чмялінае гняздо...

— Шпіёнішэ?! — гергетаў успуджаны тады Болесем немец. Паліцай замахаў рукамі: — Найн, біст ідыёт!

Але той, путаючыся афіцэркамі ў палынах, ішоў да ўтрупянелага Антолінкавага. Нечакана ласкава паляпаў яго па плячы, зазірнуў яму ў вытрашчаныя па-заячаму вачыскі, на брыняючую між імі ружовістую апухліну на пераноссі, і вырагатаўся. „Гут, аборыгэн! Глюбоко копат траншэй, совэтскі танк надо капут!..”— адышоўшыся на ўзгорачак, ён заўглядаўся некуды ў бінокль.

Кабеты скрыгатліва пакопвалі ўпоперак травяністага схілу, а мацавіцейшыя мужчынскі паглыблялі за імі ў рост чалавека, робячы тое з вышкаленасцю пабыўшых на вайне палякаў з Гітлерам. Не людская бяда, ці паспеюць, бо работы не на адзін дзень. Раптам засвісталі нізка кулі і ўсе без агляднкі пападалі, дзе хто стаяў (жартавалі пасля, у прыход саветаў, што Болесь не так вельмі недарэкі, калі даполз да бабаў).

Нямчур з нашым лайдаком кудысьці змыліся. Людкове сыпанулі межамі прэч, сукочучы нагамі ад жудасліваға енкату „уррр-аа!!”, штораз налятаючага з встрыкам ад Свіслачы, і выбухаў, быццам якісьці шалёны малаціў цэпам па голым таку. Але ніхто не кінуў сваю рыдлёўку. Яшчэ таму, можа, што баяліся бандытаватых украінцаў, гвалтуючых харашунь.

На рынку, пад учарнелым сцяноўем гандлёвых радоў, — спаленых, калі ўцякалі ў сорак першым тыя першыя саветы, — запыніўся вайсковы грузавік, з кузава якога два фасоністыя немчыкі раздавалі местачкоўцам цукар. Спехма адважвалі па кілаграме, за дапамогу арміі. Спрытнейшы прыгаворваў: „Іван цвай раз достаць нах дупа!” — і міргаў маладзіцам.

Неўзабаўку пад'ехаў да іх адзін на сакочучым матацыкле, нешта загадаў, і пыльнуў гасцінцам у зноў жа Лапіцкія горы. Ваякі зляснулі борт, лапатліва апусцілі брызент, пасядалі ў шафёрку і, запусціўшы матор, пагазавалі за вестуном.

Саветы прыйшлі назаўтра ў світанак. А пакуль было да гэтага, цэлую ноч ламарэндзілі немцы з тэхнікай, ад грукату якое абсыпаўся кіт на шыбах, закладала ў вушах. Спачатку з'явілася ад агародаў порсткая разведніца з рэвальверам напагатове і з трыма ўпэцканымі салдацікамі. „Германцев нету?” — знянацку падступілася да таго ж Болеся, які, як гэта дурань, высунуўся якраз на падворышча. Замест сказаць ёй дарэчы, узяўся ён азірацца, бы злодзей у шкодзе. Шчасце, што выбегла са склепу за ім сама Антолька ды загаласіла: „Няма, таварышка, каб іх халера выкаціла! Каб Сталінко на рогі падняў!..” — „Хватит, бабушка!” — пагрозліва ацішыла яе.

Загінуўшых звозілі мужыкі вазамі ў пусты канец праваслаўных могілак. Шукалі і забітых немцаў ды не знаходзілі. Нехта бачыў, што наклала галавою ўсяго двух, і свае забралі іх з сабою. Тым часам стала вядома: адбывацца бітва за Беласток. Прывозілі адтуль параненых. Яны казалі, таксама, што ў Расеі больш не будзе калхозаў. Гаспадыні давалі ім есці; гаспадары ўчастоўвалі чаркаю. У мястэчку ўчыніўся настрой, як увосень на Багача: гралі гармоні, моладзь навучылася „Кацюшу” і „Цёмную ноч”, аднавіліся — прызабытыя ў акупацыю — мардабоі за дзяўчат на танцах. У кагo гаспадарка — вастрылі сярпы, вязалі на прыгуменях пярэвяслы, валакліся ў поле.

Скончылася свята, калі камендант горада — паголены і з роўна зашпіленымі гузікамі на шынялі капітан Саша — аб'явіў мабілізацыю хлопцаў на Варшаву і Берлін. Мацяркам выпырснулі слёзы. Той-сёй бацька разумеў, што плачам тут нічога не даб'ешся, трэба спосабу. Выйсце само паказалася — франтаваты масквіч Саша заходзіў да дачкі бясхлебнага Поўха на Шведскіх Акопах. Яна не мела адвагі — або і не хацела? — хавацца ад яго. Ей, панадная смяшлівіца, і ўтлумачылі ўсім кагалам за каторымсьці разам, што няблага збагацее, надумаўшы менавіта фанабэрыі, абяцанкі-цацанкі таму Сашку.

— Не будзь дурнюшкаю, прасі, хай ён табе наносіць саладосцяў, гэты прышываны кавалер, — падказвалі. — У каго мяшок цукру цяперашнім часам, у таго, слухай, усе людзі кліентамі. Паняй табе быць! А хлопцаў аднаго-другога выратуеш, дарункамі цябе яны абсыплюць у тваё вяселле...

Казалі дзеля ўедлівай у галышкі ахвоты:

— Калі ўжо аддамо яму патроху цукар, што ў фронт прызарабілі, цягні муркі-жмуркі з ім далей, каб жывата ён табе не прыстроіў. Гні на шляхцянку, русакі балванеюць перад такімі: дамагайся вось ад яго модаў, трантаў усякіх зграбных, што салдатня лупіць з нямкіняў у Прусіі. Пакуль у яго тое наладзіцца, то і палякі сюды вернуцца, і турнуць Сашку ў ягоную Маскву... Забачыш, не пашкадуеш!

Местачкоўцы, ведаючы жыццё, нямат памыліліся, апланаваўшы грэшны спас сынам: не ўсіх пабралі. Камендант пабыў, праўда, задоўга, але стары ўдавец Поўх не жаліўся: дачку, няшкодна прыкалечаную абортам, узяў па вайне сапраўды шляхтаваты надлесны з Пачапка. На шлюб ехала Поўшанка белакрылым анёлам, у дыванстай брычцы запрэжанай тройкаю буланых коней. Някідка на выгляд аблезлы ўсвае гады малады меў твар, як падалося Болесю, злодзея ў малінах...

Зорка
старонка для дзяцей



*Лета.* Фота Ады Чачугі

# ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

## ЧАБАРОК



Чабаpopк, чабарок,
Ды каля дарожкі,
Харошанькі мой міленькі,
Ды крывыя ножкі.
Ох! Ох! Ды крывыя ножкі.

А мой жа ты даўганосы,
Ой, які ж ты нехарошы:
Каб ты быў такі, як я,
Дык даўно была б твая.
Ох! Ох! Дык даўно была б твая.

Каля саду я хадзіла
Ды шчыпала вішні,
Дай жа, Божа, кавалера,
Ды пад мае мыслі.
Ох! Ох! Ды пад мае мыслі.

Каб і люльку не курыў,
Гарэлкі не нюхаў,
Чужых жонак не любіў,
Адну мяне слухаў!
Ох! Ох! Адну мяне слухаў!

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## Хто такі Кірыла Тураўскі

Кірыла Тураўскі нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Тураве — адным з найбуйнейшых культурных цэнтраў у старажытнай Беларусі — у заможнай сям'і. Дасягнуўшы паўналецця, аддаліўся ў адзін з тураўскіх манастыроў, відаць святога Міколы, і неўзабаве стаў яго парафіяльным святаром. Здольны да кніжнай справы, ён гэтым часам пачаў пісаць малітвы (цыкл на ўсю сядміцу) і творы пра манаства („Слова ўказанне, адкуль жыццё ў людзях бязжэннае", „Аб чыне чарнарызца"). Калі ў 1148 годзе кіеўскім мітрапалітам стаў Клім Смаляціч — ідэйны апанент Кірылы і прыхільнік самастойнасці Кіеўскай мітраполіі, Кірыла вымушаны быў пакінуць манастыр; у гэты час ён замыкаецца ў манастырскай вежы — „стаўпе", робячы подзвіг стаўпніцтва.

Пасля таго, як Клім склаў абавязкі мітрапаліта, тураўскія месцічы і князь Юрый запрашаюць Кірылу на епіскапскую кафедру. У гэты перыяд Кірыла напісаў шэраг пропаведзяў на святы Велікоднага і Пяцідзесятнага цыклаў, а таксама іншыя казанні на хрысціянска-этычныя тэмы, асуджаючы язычніцтва. У канцы 60-х гадоў Кірыла выступіў супраць „смуты" суздальскага ігумена, „ератыка" (арыяніна) Фядорца. Магчыма, да гэтага часу належыць ягоная прыпавесць „Пра душу і цела", а таксама „Слова на Сабор 318 святых айцоў".

На схіле веку Кірыла пакінуў епіскапскую кафедру і пайшоў у Барысаглебскі манастыр, дзе працягваў літаратурную дзейнасць. Там ён напісаў пасланні да кіева-пячорскага ігумена Васіля. Памёр ён пасля 1184 года.

Хаця пра Тураўскага Залатаслова (як называлі яго сучаснікі) нам вядома няшмат, затое да нас дайшла амаль неверагодная для аўтара XII стагоддзя колькасць ягоных твораў — пропаведзяў, прыпавесцяў, малітваў, павучанняў, канонаў. Яны адлюстроўваюць натуральнае чалавечае захапленне хараством прыроды, вызначаюцца багатай паэтычнай вобразнасцю, узнёсласцю. Вялікі гуманіст старажытнасці Кірыла Тураўскі — сімвал таленту нашага народа, яркае сведчанне глыбіні каранёў нашае культуры.

*(100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі)*

## КРЫЖАВАНКА

1) на дабранач,
2) хатні сябра, які палохае мышэй,
3) рэчка, якая выступае ў маршы „касцюшкоўцаў",
4) вароты або....,
5) наша старонка ў „Ніве".



Пішуць школьнікі

### Там трэба быць!

Апошнім часам я была на экскурсіі. Паехалі мы цэлым IV „е" класам з бельскай „тройкі". Наведалі мы Люблін, Казімеж-Дольны і Налэнчуў.

Найперш паехалі мы ў Люблін. Там чакаў нас экскурсавод. Ён паказваў нам горад і Майданак. Начавалі мы ў гатэлі. Наступнага дня раніцай мы наведалі Налэнчуў. У гэтым цудоўным горадзе ёсць парк. Мы доўга там шпацыравалі. Пазней паехалі мы ў Казімеж-Дольны. Там хадзілі па руінах замка і плавалі па рацэ Вісле. Так закончылася мая экскурсія.

„Зорка", тое, што я там бачыла, немагчыма апісаць; трэба там проста быць!

Дасылаю прывітанні табе, „Зорка"!

**Моніка Мельнік**
**клас IV „е"**
**бельскай „тройкі"**



*Вучні IV "е" класа з бельскай "тройкі" на сустрэчы з "Зоркай".*
Фота Г. Кандрацюк

Вучнёўская творчасць

### Дарагая „Зорка"!

Я вучуся ў III класе Пачатковай школы ў Орлі. Мне 9 гадоў. Я склала верш, які Табе пасылаю. Прашу яго надрукаваць.

*Агарод*

*Абцірала баба пот,*
*бо палола агарод:*
*цыбуліну, агуркі,*
*і капусту, буракі.*
*Да яе з'явіўся дзед*
*стаў палоць за бабай ўслед.*
*Так палолі, аж змакрэлі,*
*Пакуль зоркі замігцелі.*

**Мілена Яканюк,**
Крывая

**Ад рэдакцыі:** У час канікул агароды полюць не толькі старэчы, але і многія дзеці. Вельмі цікавы твой вершык, Міленка. „Зорка" з радасцю прывітала яшчэ адзін талент з Крывой. Напамінаю, што будзеш удзельнікам штомесячных конкурсаў „Зоркі".

# Вершы Віктара Шведа

## УЛЕТКУ СПІЦЬ У ШКАРПЭТКАХ

Мама дзівуецца, бо ўлетку
Просіць яе сыночак:
— Мама, дазволь спаць у шкарпэтках
Кожнай наступнай ночы.

— Ты мерзнеш з босымі нагамі
Улетку, мой Валодзя?
— Ужо мне надаела, мама,
Шукаць шкарпэткі штодзень.

## У ЗААПАРКУ

Запытала мама Ярка
І яго браточка Колю:
— Што вам сёння ў заапарку
Падабалася найболей?

І браточкі нечакана
Адказалі маме залпам:
— Падабаўся дзядзька п'яны,
Што язык паказваў малпам.

## ПАСКЛЕЙВАЕМ, ТАТУЛЬКА, СПРАВЫ

Сынок татульку стаў пытацца:
— Чаму такі ты сёння хмуры?
— Расклейваюцца справы ў працы,
Дойдзе, відаць, да авантуры.

— Ды, татка, ёсць яшчэ надзея, —
Сынок азваўся нечакана —
Купіў я сёння пляшку клею,
Пасклейваем усё старанна.

## Какава з газеты

Сіні слонік Радаслава
З коткай Рабкай п'е какаву.
Кот гумовы, слон гумовы,
А напой? — ён... папяровы!
Запытайце ў Радаслава:
Які смак у той какавы?
— Не гумовы-папяровы,
А кавовы, какаовы;
У той газеце друкавалі,
Як какаву сабіралі
У Амерыцы гарачай,
І адтуль той смак, няйначай.
Бо калі б пра сок пісалі,
Тады б сокам частавалі
Сёння Альфіка і Рабку
Дзеці, што ў гасцях у Радка!

**Міра Лукша**

## Хворы коцік

Быў у Наты чорны коцік,
Забалеў яму жывоцік;
Ната так яго любіла,
Што смятанай абкарміла.
Бедны коцік усю ночку
Ходзіць ціха па садочку,
Цяжка мяўкае ад болю —
Плача над сваёй нядоляй.
Пачуў певень кіску ранкам,
Скукарэкаў калыханку,
І кароўка замычала,
І авечка забляяла,
Птушачкі зашчабяталі —
Коціка закалыхалі.
І праспаў увесь дзень коцік —
Перастаў балець жывоцік.

**Аляксандр Вярбіцкі**



*Андрэй і Міхась на канікулах у дзеда.*

# МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ




*Малюнак Паўліка Кубаеўскага з Орлі.*

## ДЗЕЦІ З ГАРАДКА

Эдыта Лісоўская, Эля Тарасэвіч, Малгажата Партонік, Аня Матэйчук, Марцін Кузьма, Міхась Парэмбскі і Гжэсь Паплаўскі перайшлі ў пяты клас. Усе гэтыя дзеці з розных класаў („а", „б", „ц" і „д") Пачатковай школы ў Гарадку. Пазнаёміліся яны на ўроках беларускай мовы.

— Гэты клас самы вялікі, бо ў ім аж 19 вучняў, — сказала іхняя настаўніца Галіна Паплаўская.

Самым любімым заняткам пяцікласнікаў з'яўляецца гульня ў тэатр. Цяпер, хаця і няма ёлкі, дзеці рыхтуюць „Каралеву Снягурку", зразумела, на беларускай мове.

**Г. К.**



# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Жывая вада

Як у вёсцы Сасіны, што каля Мілейчычаў, стаяла старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою.

Прыходзілі тады ў царкву людзі хворыя і калекія. Шчыра маліліся перад іконамі, спавядаліся ў сваіх грахах, прычашчаліся, мыліся ў крыніцы жывою вадою і адыходзілі здаровымі. Слава аб цудоўнай крыніцы разыходзілася далёка па свеце. Усё болей прыходзіла з далёкіх краёў людзей няшчасных па ратунак.

Аднойчы аднекуль прыйшла да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна і не думала памаліцца, пакаяцца ў сваіх грахах і прыступіць да святога прычасця, але адразу падышла да цудоўнай крыніцы і ўвапхнула ў яе свайго сабаку.

— Што ты робіш?! — абурыліся хворыя і калекі. — Ці ж можна купаць у цудадзейнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы за вас, паганых, — фанабэрыста адрэзала ім пані.

Ніхто з няшчасных людзей не пасмеў пярэчыць ганарыстай пані і яе здаравенным лакеям.

Але ж як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся і жывая вада знікла.

Стогн жаласці пракаціўся па натоўпе... Пані, прадчуваючы нядобрае, ускочыла ў карэту, лакеі ўдарылі па шасцярыку стаеннікаў і толькі іх было бачна.

Людзі кінуліся, лямантуючы, ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто змог. Капалі лапатамі і рукамі. Капалі многа і доўга. Але аніяк не змаглі трапіць на след крыніцы — усюды зямля была сухая, быццам попел. Тады ўсё наваколле заляжыла саракадзённы пост і штодзённыя пакаяльныя малебны. Пасля з духавенствам пайшло хросным ходам з малітвамі і спевамі на месца, дзе была крыніца. І праз нейкі час там зноў паявілася вада. Але яна ўжо не біла звонкім струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы. Хворыя і калекі зноў кінуліся да яе. Кропля да кроплі збіралі і шукалі ў ёй паратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Аднак вада больш ужо не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпалася няшчасце за няшчасцем. Увосень, ноччу, невядома ад чаго згарэла старая царква. На людзей прыйшло смяротнае паветра: і старыя, і малыя ўміралі, як мухі, і некаму было хаваць нябожчыкаў. Няшчасныя паўзлі да крыніцы і ніякай дапамогі ад яе не было. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, і нават стала забывацца месца, дзе некалі біла жывая вада.

Крыніца ж не дала забыць пра сябе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сочыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

# Пенкна наша Польска цала...

Гэтым паланезам і песняй „Сяброў” пра Беластоцкі край (на словы Алеся Барскага) пачаліся III Мастацкія сустрэчы Беласток—Гародня ў беластоцкім амфітэатры 16 ліпеня. Дзень быў сонечны, прыгожы, хмары трымаліся ў гэты раз да апошніх гукаў са сцэны. І зноў нашым аўтарам, што сядзелі за столікамі пры ўваходзе ў амфітэатр, прыйшлося хаваць свае кніжкі ад буйных кропляў, не чакаючы выхаду ўцякаючых перад навальніцай гледачоў. Апрача пісьменнай вытворчасці (А. Барскага, В. Шведа, Я. Целушэцкага, М. Хмялеўскага, М. Гайдука, В. Петручука і М. Лукшы) можна было зацікавіцца і рукадзеллем (вышыўка і вязанне) Анны Пісанка і касетамі з музыкай, але, здаецца, зацікаўленне не было вялікае, паколькі ўсе тыя, хто хацеў набыць кніжкі і песні, зрабілі гэта месяц раней, на Свяце беларускай культуры. На абодвух мерапрыемствах былі тыя ж заўзятары роднай песні (у чэрвені было іх удвая больш). Галоўным спонсарам абодвух сустрэч было Міністэрства культуры і мастацтва Рэчы Паспалітай. Да яго далучыліся: Фабрыка прылад Бісон-Бяль С.А. у Беластоку (вытворчасць рознага віду станкоў, ціскоў, аправак і ручак да шрубоўнікаў і іншага), страхавая фірма ПЗУ, Дом кнігі, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры, Аддзел культуры Ваяводскай управы ў Беластоку і, вядома, Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Афіцыйную частку пачаў старшыня ГП БГКТ. Вёў яе на прыгожай беларускай і польскай мовах. Ён і назваў III Сустрэчы „Фестывалем польскай і беларускай песні”.


"Чарамшына" — якія красуні!

— Тры гады таму мы, як прадстаўнікі нашага Таварыства, паявіліся ў Галоўным праўленні Саюза палякаў у Беларусі, у прысутнага тут старшыні Тадэвуша Гавіна, — успамінаў Я. Сычэўскі. — Яны з вялікай прыхільнасцю прынялі нашу прапанову, каб арганізаваць наперамена ў Беластоку і Гародні агляды польскай і беларускай песні. Мэтай іх з’яўляецца праніканне культур, глыбокае пазнанне польскай культуры беларусамі і беларускай палякамі, сужыццё двух нацый, якіх спрадвеку спалучыў лёс. Думаю, што гэтая мэта дасягаецца нашымі сустрэчамі. Калі мы тут сярод гледачоў бачым і палякаў, і беларусаў, — ёсць гэта людзі добрай волі, якія спрыяюць пазнанню культуры другой нацыі, зразуменню яе, сужыццю двух нацый, якія жывуць побач і разам.

Ад імя арганізатараў прывітаў Я. Сычэўскі гасцей: віцэ-маршалка Сейма Рэчы Паспалітай Аляксандра Малахоўскага, пасла ў Сейм, старшыню Камісіі па справах нацыянальных меншасцей у Сейме Яцка Кураня, віцэ-міністра культуры і мастацтва РП Міхала Ягелу, генеральнага консула РБ у Беластоку Міхаіла Слямнёва, генеральнага консула РП у Гародні Мар’юша Машкевіча, намесніка Беластоцкага ваяводы Гжэгажа Рыкоўскага, пасла ў Сейм Станіслава Малішэўскага, старшыню Саюза палякаў Тадэвуша Гавіна. Адчытаў таксама ліст Аляксандра Квасьнеўскага, які выклікаў агульны *апляўз* — „словы прывітанняў і пашаны для дасягненняў Беластоцкай зямлі; ёсць гэта перш за ўсё вынікам штодзённай працы яе жыхароў, а таксама разумнага супрацоўніцтва суседніх ваяводстваў — Беластоцкага і Гарадзенскай вобласці. Супрацоўніцтва — гэта выдатны прыклад, як можна выкарыстаць культурныя сувязі народаў для будавання моцнага суседскага сяброўства. Добрыя вынікі ў будаванні бяспечнай і сучаснай Еўропы ў вялікай меры залежаць ад умеласці стварэння шматбаковага карыснага супрацоўніцтва між нацыямі”. А Уладзімеж Цімашэвіч на рукі Таварыства раней даслаў „Dyplom uznania” — за „каштоўную дзейнасць БГКТ, якое распаўсюджвае традыцыі і дасягненні культурнай дзейнасці”, з падзякай за арганізаванне III Сустрэч Беласток—Гародня.

Менш красамоўна выказаўся Тадэвуш Гавін, які пажадаў „Panstwu miłego odpoczynku”. Але гэта было не ўсё. На эстраду выйшлі яшчэ сп. М. Ягела, консулы, ваявода і Яцэк Курань... Не, кандыдат у прэзідэнты не ўзышоў на сцэну, а... ускочыў на яе — гэта хіба мае сведчыць пра тое, што пасля веласіпеднай аварыі ён ужо ў выдатнай фізічнай форме.

— Ой, зараз сабе зноў нешта зробіць!.. — пачула я з-заду каментарый мілавіднай пані, якая раз-пораз будзе аналізаваць выступленні. — Ізноў будуць у газетах пісаць!

— No, to już przecież prezydencka kampania, co nie? — заўважыла яе суседка. — Specjalnie przyszłam Kuronia zobaczyć!..

— Ваша прысутнасць тут, мілыя гледачы, сведчыць аб тым, — пачаў віцэ-ваявода Г. Рыкоўскі, — што Сустрэчы ёсць важнай культурнай падзеяй і прадпасылкай новага, сапраўды еўрапейскага ўспрымання праблем і з’яў пагранічча. Старанні і намаганні дзеля захавання ўласнай нацыянальнай тоеснасці варты вялікай пашаны. У сучаснасць камп’ютэрнай тэхнікі трэба быць вялікім заўзятарам народнай творчасці і займацца ёю так сардэчна, як нашыя госці, якіх мэтай ёсць імкненне да дасканаласці ў мінуўшчыне, захавання ў памяці і ў матэрыі песні, танца, прадметаў, дбанне аб аўтэнтычнасць і этнаграфічную праўду...


Сярод публікі — міністры, паслы, консулы...

— Тое, што робіцца на гэтай сцэне (я веру ў гэта) не астанецца аднойчы без увагі гісторыкаў. Вялікае бачыцца на адлегласць. Але і сёння мы можам заўважыць, што калі над Польшчай лунае беларуская песня, а ў Беларусі гучыць песня польская, ніхто і ніколі не раздзеліць нашы дружалюбныя народы! — сцвердзіў М. Слямнёў, а М. Машкевіч прыгадаў святкаванне 585 гадавіны бітвы пад Грунвальдам, якое ўрачыста праводзілася тыдзень раней у Гародні беларусамі, палякамі, літоўцамі, рускімі і татарамі.

— Гэта вялікая радасць, што ў нас супольныя айчыны, і гэта ніяк не памяншае ні польскасці, ні беларускасці, а чыніць іх большымі, цудоўнейшымі. Маем супольныя айчыны з украінцамі, літоўцамі. І гэта ёсць самым прыгожым, найбольш цудоўным, найбольш сягаючым у будучыню, — сказаў Яцэк Курань. — І такім чынам свет будзе ставацца светам людзей, якія не хочуць забіваць адзін аднаго, а дапамагаць і кахаць!..

— Гэта ўсё, што меў ён сказаць? — хвалявалася пані з задняй лаўкі. — Mógł choć przemówić do ludzi! Specjalnie przyszłam na Kuronia.

Канцэрт вялі Валянціна Ласкевіч ды Віктар Губіч (з Гародні). Першы на сцэну выйшаў хор з Гарадка са Сцяпанам Копам; вельмі свежа, прыгожа і дынамічна прэзентаваліся. Кожны з калектываў з Беласточчыны (усе ў беларускім адзенні) заспяваў і польскую народную песню. „Тыневічанкі” не гучалі найлепш па прычыне нейкіх „штучак” з гукаўзмацняльнікамі („Nie wiem, co się stało, chyba ktoś się podłączyl, to nie moja wina” — сказаў аператар). Маладосцю і незвычайным, трохі экзатычным смакам музыкі захапіла „Чарамшына” пад кіраўніцтвам Барбары Козуб (цымбалы, бубен, домбры, стройныя дзяўчаты...). „Гайнаўскі” і „беластоцкі” хоры выступілі ўпэўнена, як у сябе, як заўсёды, прафесіянальна. Кожны з нас, беларусаў, з гонарам і задавальненнем паглядаў на іх і слухаў знаёмыя песні ў выкананні сапраўды нашых прадстаўнікоў. Пані з хору Саюза палякаў у Беларусі, якая пасля выступлення сядзела сярод гледачоў, са здзіўленнем звярнулася да сяброўкі: „Słuchaj, toż one spiewajom po białoruskiemu?!” Затое „па-польскему”, і то выключна на гэтай мове спявалі гарадзенскія госці, апрача „Гарадзенскіх салавейкаў” Алы і Андрэя Пінертаў, якія пяялі па-польску, па-беларуску, па-руску, па-яўрэйску, па-нямецку, пачынаючы ад Шапэна; ну, і, вядома, Віктара Шалкевіча. Віктару далі праспяваць толькі дзве песні, і бард учыніў „так, каб вам было добра і мне прыемна” — заспяваў па-польску „Dziewczynę z Dolnej Palestyny” і па-беларуску пра саксафаніста Сярожу, які толькі што „зубкі ашчэрыў”. Вельмі зладжана гучаў хор Саюза палякаў, які дзейнічае няпоўны год, у патрыятычных песнях (новых і старых) пра Гародню і „фале Немна”, а найлепш басам загрымеў іхні пан Чэслаў Валюк у „Саколах”. Ансамбль песні і танца „Przyjaciele” з Ліды спяваў па-польску ў беларускіх касцюмах, а танчыў у новенькіх польскіх рэгіянальных строях. А нашыя (Ежы Томзіка) дзяўчаткі з нарваўскага „Пронару” Крыся Сегень і Эва Якубоўская выканалі „эстраду”. У Крысі незвычайнай красы голас, хаця сама прэзентуецца на сцэне не так каларытна, як Эва (думаю, што гэтых несумненна таленавітых спявачак Е. Томзік з рук не выпусціць!). Дзяўчаткам, на жаль, не хапае рэпертуару больш адпаведнага да іх узросту і іміджу. Вось Эва прапанавала слухачам рашэнне пытання: „Jak z dwóch ciał ułożyć ornament?”

Вось так і было ўсё: „Дударык”, „Мой Беластоцкі край”, „Czarna Madonna”, „Szła dzieweczka do liaseczka”, „Dzis do ciebie przyjsc nie mogem”. Найбольш з усіх хіба цешыўся беленькі як голуб дзядуля, які падскокваў на лаўцы і пляскаў далоньмі над галавою:

— Ja naprawde lubie te ruske piesenki!

Шкада, што ў Гародні аматараў песні не так многа, як тут, у Беластоку. Можа праз год і яны так шчыра і людна будуць вітаць Мастацкія сустрэчы Беласток—Гародня?..

**Міра Лукша**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**


Мікола Гайдук прапануе маладому пакаленню "Паратунак".

# Урляняты — радзіма Станкевічаў

*Працяг са стар. 4*

кладна ўсе ганенні на рэлігію, які калі быў тут ксёндз. Ведае прыхаджан, нават Станкевічаў, але не тых, якія нас цікавяць. Пытаемся пра ксяндза Адама. „Не, не чула, відаць ён не ў нас быў на прыходзе".

Другая сястра, маладая, дзесьці з-пад Любліна, кажа, што ніякіх архіваў пры касцёле не засталося. „Наляталі, усё забіралі, — кажа яна, — то і так ласка боска, што сама вера тут выжыла". Надзеі, што ў гэтым месцы знойдзем пісьмовыя крыніцы адносна продкаў д-ра Станіслава Станкевіча (рэдактара) — а мяне гэта найбольш цікавіць — лопаюць ушчэнт.

На плябаніі, зразумела, польская мова. У касцёле толькі адзін надпіс пабеларуску. Стаяць начатыя пачкі са старымі кніжкамі з Польшчы — вынік зборкі дараў

**для палякаў на крэсах.**

Рэлігійная літаратура па-польску і па-расейску, а таксама на польскай мове расейскімі літарамі.

У кляштарным комплексе захаваўся будынак колішняй публічнай 6-класнай школы, якую ў пачатку XIX ст. вялі айцы базыльяне. У 1920—22 г.г. дзейнічала тут беларуская настаўніцкая семінарыя, дырэктарам якой быў Сымон Рак-Міхайлоўскі. Сёння на сцяне прымацаваная памятная шыльда. У будынку, на другім паверсе жывуць некалькі настаўніцкіх сем'яў. Першы апусцелы і знішчаны. З падвала чуваць рохканне свіней. Пасля вайны школу пабудавалі ў іншым месцы, а гэтыя муры так і пакінулі на заняпад.

Спатканы перад касцёлам дзядзька просіць гаварыць галасна, бо ён крыху глухаваты. Нічога дзіўнага, бо ён з 1906 года. „О, Станкевічы, яны былі беларусы, а за немца запісаліся ў нямецкія беларусы". — „А вы хто, не беларус?" — пытаем дзядка. „Эт, — махае ён рукою, — ніколі тут беларускага царства не было. І не будзе". Потым, раслумачыўшы дарогу ў тыя Урляняты, дадае:

**„А за немца то беларусам было добра".**

Ці не большая частка Урлянят — Станкевічы? Нават цяпер іх там многа, а колькі разбрылося па свеце. Даводзіцца крыху пачакаць, пакуль вясковыя жанчыны перабяруць у памяці тых Станкевічаў і вывядуць нас на ўласцівых. „А, гэты ксёндз то там за вёскаю жыў, — узгадвае адна, — на выгане. Вунь на ўзгорку яго хата".

У драўляным доме з прыгожым садком жыве цяпер дачка сястры ксяндза Адама — сама ўжо пажылая кабета — з сынам. Расказвае яна, што калі яе дзядзька і не нарадзіўся тут, то напэўна жыў у гэтай хаце, бо нават яе маці пакойніца не памятала, калі яе будавалі. Цяпер час ад часу прыязджаюць сюды розныя людзі, з Менска, з Вільні, фатаграфуюць. „Калі на прыходзе ў Барунах быў яшчэ ксёндз Ян Матусэвіч, абышоў тут усе пакоі, заглянуў у кожны кут, распытваў, усё, усё яму было цікава".

На панадворку Станіслава (кнігара) стаіць ужо пасляваенны дом. Жыве там цяпер яго пляменнік. „О тут, пасуседску, дзе стаіць мой гараж, — паказвае ён, — быў дом другога Станіслава. Я то яго помню ано як ён у вайну прыязджаў. Я дружыў з яго малодшым братам Юзікам. Цяпер, кажуць, Зюкавы сыны высокімі начальнікамі ў Вільні".

На родавым месцы Янкі Станкевіча ніхто не застаўся.



*Крыж над магіламі бацькоў і сястры д-ра Станіслава Станкевіча.*

На ўзгорку за вёскай — могільнік. У падножжа два драўляныя крыжы, каталіцкі і праваслаўны.

**Амаль кожная другая магіла — Станкевічаў.**

Сярод іх — бацькоў і сястры Станіслава, Ганараты, якая памерла ад родаў. Каля магілы маці ксяндза Адама, помнік самому святару, які спачывае ў чужой сібірскай зямлі.

„Цяпер, калі перасталі ваяваць з рэлігіяй, — расказваюць жыхары Урлянят, — дазволілі зрабіць тут парадак. І абгарадзіць. А раней то тут усё травою і кустамі было зарасло".

Непадалёк могілак пасецца гадавы жарабец. Станкевіч паказвае яго рукою: „О, дазволілі ўжо людзям гадаваць. Толькі, бяда, няма ўжо каму".

Калі было яшчэ каму, Урляняты доўга бараніліся перад калгасам. „Напэўна да 50-га, а можа і да 51-га года, — успамінае Станкевіч. — Але як прыціснулі, як аблажылі падаткамі..."

Пытаемся пра касцёл у Барунах. „Цяжкавата з ксяндзом дагаварыцца, якісьці ён такі, — чуем у адказ. — Цяпарака то ўжо лепш, але калі прысхаў ён пяць гадоў таму, то ўвогуле мы яго не маглі зразумець. Неяк дужа правільна па-польску гаварыў".

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Дом, дзе жыў (і нарадзіўся?) кс. Адам Станкевіч.*

## Пятра і Паўла ў Дубічах-Царкоўных

Я, бедны грэшнік, вельмі рэдка бываю ў Дубічах на святкаванні Пятра і Паўла. Прычынай таму перш за ўсё тое, што ёсць там у мяне шмат сваякоў і кожны заўсёды запрашае ў госці. Пайдзі да аднаго, усе апошнія гневаюцца: „чаму наведаў Марысю, а не наведаў Олю, Колю ці Гандзю?" Вядома, я вельмі ахвотна наведаў бы ўсіх, каб быў час.

У прошлым годзе ўсім адмовіў, але Сярожы Нічыпаруку адмовіць не мог, бо ён мяне папрасіў, каб я памог яму завезці з Дубіч у Грабавец некалькіх гасцей, у тым ліку майго дваюраднага брата Сямёна. Такім чынам гасцяваў я з жонкай Клавай у Нічыпарукоў, Сямёна Тарасюка ды ў Бацечкі з Мацеькай Гаўрылюкоў.

Сёлета таксама выпала прыгожае надвор'е і мне стала сумна ды прыкра нават падумаць, што не пабуду сярод сваякоў ды знаёмых. Апрача таго нам захацелася пабольшыць лік праваслаўных вернікаў, бо думалі, што ў будзённы дзень (была серада) мала іх прыбудзе з усяе Польшчы. Божанькі, якая ж была нашая радасць, калі я не меў дзе паставіць сваю машыну. Народу поўны храм, натоўп на могільніку і вакол агароджы. Тады я сабе падумаў, вось, як яно здзецца: каталіцкі клір наракае, што вернікаў усё менш, а сюды — значыць да праваслаўнае Царквы — прыбывае. Асабліва цешыўся тым, што большасць прысутных на святкаванні Апосталаў Пятра і Паўла — гэта моладзь. А моладзь, нічога не скажаш, гэта будучыня нашай нацыі і нашага праваслаўя. У такой сітуацыі нам няма чаго баяцца, што праваслаўны народ, перасялены з вёсак у гарады, перастане быць праваслаўным ды пакіне свае карані. Я аптыміст і веру, што наш народ астанецца сабой на векі вякоў! Дзе яшчэ так, як у праваслаўным храме, так прыгожа моляцца і так шчыра, ва ўсёй велічнасці святой веры, служаць Богу? Не толькі я, але і многія католікі гэта ўжо даўно прыкмецілі.

А як было пасля Божай службы? О, не. Мы не паехалі дамоў. У госці да сваякоў не пайшлі, бо таксама Марыся Якімюк, Оля Краська, Сяргей Масальскі ці Коля Масальскі мелі поўна гасцей, сярод якіх свае дзеці, унукі, хація вельмі запрашалі. Мы ім абяцалі, што хутка іх адведаем, калі будуць яны свабаднейшыя, а самі паехалі да Колі Чыквіна, каб купіць мёду і ехаць дамоў, але там „застраглі" да вечара. Не шкадую гэтага, а наадварот, цешуся, бо сустрэў там сваю былую сяброўку Марусю (яе заўсёды так называлі), якой не бачыў прынамсі паўвека, ды пазнаёміўся, таксама, з цікавымі людзьмі — Оляй і Ваняй Калішукамі, якія працавітае жыццё правялі ў Сілезіі, а зараз жывуць у Гайнаўцы.

Цешуся з сёлетняга святкавання Пятра і Паўла таму, што ўдалося нам наведаць поўны народу храм, дваюрадных сястрыц і братоў, калег і знаёмых, ды яшчэ таму, што пазнаёміўся з новымі сябрамі. Дай нам, Божа, дачакаць наступнага года!

**Васіль Петручук**

# 8-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 14:14—22)*

У 14-м раздзеле Евангелля паводле Матфея ёсць апавяданне пра насычэнне пяццю хлебамі пяці тысяч людзей. Гэты цуд прамовіў да людзей больш за ўсе папярэднія. Сведкі памнажэння маментальна ўцямілі незвычайную практычнасць гэтага цуду і ў той дзень упершыню народ хацеў абвясціць Хрыста царом.

Мэта чарговага цуду — памнажэнне хлеба была аднак іншая.

Насычэнне Хрыстом пяці тысяч людзей азначае, што Бог рупіцца і пра зямныя, і пра духоўныя патрэбы чалавека, апярэджваючы нават просьбы. У евангельскім цудзе выявілася Божая моц адвечна закладзеная ў прыродзе, якая пастаянна служыць людзям. Цуд памнажэння хлеба паўтараецца ў тым, што ўспрымаем як нармальныя законы прыроды. Божы цуд назіраецца ў кожным сцябле пшаніцы, жыта ці ячменю, у кожным жніве і ўмалоце зямельных пладоў. З дапамогай гэтак званых натуральных сродкаў, якія аднак незалежныя ад чалавека, адбываецца той жа цуд, які некалі дазволіў накарміць пяць тысяч чалавек. Людзі падрыхтоўваюць глебу, угнаенні, зерне, але толькі таемная моц адвечна заложаная ў зерні, учыняе тое, што яно прарастае. Зусім незалежна ад чалавека паветра, дождж і сонца стымулююць рост і дасціпванне. Людзі слушна клапоцяцца пра машыны, пладазмены і ўгнаенні, аднак пераацэньваюць іх значэнне і недаацэньваюць незалежны ад чалавека боскі фактар, які мае вырашальнае значэнне.

Ёсць у евангельскай аповесці яшчэ адзін аспект, якога нельга абмінуць. Пасля насычэння людзей Хрыстос загадаў: „Збярыце рэшткі, каб нічога не змарнавалася" (Іаан, 6:12). Я сам лепш разумею цяпер, чаму пасля жніва бацька загадваў мне загрэбці раскіданыя па іржышчы сцёблы і каласы, а я злаваўся і лічыў, што сноп каласоў няварты захаду і паколатых ног. Цяпер ведаю, што час і ўклад працы былі другараднымі і не эканамічны разлік быў у гэтым выпадку вырашальны. Галоўнае, каб нішто не змарнавалася.

Хлеб дагэтуль з'яўляецца сімвалам усякай ежы і ўсяго матэрыяльнага неабходнага для жыцця. Тым часам ён няроўна падзелены: адны перасычаны ім і марнуюць яго, а іншыя галадаюць. Разам з развалам традыцыйнага ўкладу сялянскага жыцця, вульгарызацыяй звычаяў знікла і традыцыйная пашана для хлеба. Некалі ён быў свайго роду сямейным талісманам, святой рэліквіяй. Калі выпадкова падала з рук луста хлеба, яе асцярожна падымалі, цалавалі, прасілі прабачэння і з'ядалі, каб ён „не скардзіўся". Перш чым расчыніць хлеб, жанчына павінна была перахрысціцца, заклікаючы ў сведкі Бога. Пасля абеду акраец хлеба, загорнуты ў чысты ручнік, звычайна пакідалі на стале. Хлеб быў увасабленнем дастатку і працавітасці, вызначаў статус і аўтарытэт сям'і ў вясковым грамадстве. Ён займаў і да сённяшняга дня займае найбольш пачэснае месца не толькі ў матэрыяльным, але і ў духоўным жыцці нашага народа: у шматлікіх звычаях, прыкметах і павер'ях. Хлебам-соллю сустракаюць самых дарагіх гасцей. У якасці выключнай, звышматэрыяльнай каштоўнасці хлеб фігуруе ў шматлікіх выслоўях, прыказках і прымаўках, што адлюстроўваюць жыццёвую мудрасць, мараль і нормы паводзін у розных жыццёвых сітуацыях: „Хто сее хлеб, той сее праўду" — „Хлеб, дабыты сумленнай працай — салодкі ўдвайне" — „Дзе гаспадар ходзіць, там хлеб родзіць". Характэрна, што ў некаторых краінах, напрыклад у Савецкім Саюзе, хлеба — насуперак механізацыі — пачало не хапаць разам з адыходам ад традыцыйнага стаўлення да зямлі і да працы на ёй. Ад часу, калі земляробства пачало называцца сельскай гаспадаркай, яно стала такім жа як і ўся гаспадарка. Наёмніцкая праца не ў стане замяніць сапраўды гаспадарскую руплівасць. У часах, калі яшчэ ніхто не чуў пра калгасы і саўгасы, хлеба не трэба было купляць у Амерыцы. Гэта неаспрэчны аргумент. Як здзек гучаць у кантэксце вышэйсказанага словы заўзятага працаўніка прыватызацыі зямлі, аднаго з расейскіх дэпутатаў, які заявіў: „Зямля — наша маці. Як жа можна купляць або прадаваць матку?" Праўда — зямля наша маці, але ж калі так, дык трэба і па сыноўняму ставіцца да яе як да маці, а не як да мачыхі.

У малітве Гасподняй „Ойча наш" ёсць словы: „Хлеб наш надзённы дай нам сёння". З іх бачна, што сярод усіх іншых каштоўнасцей хлеб з'яўляецца абсалютна найважнейшай, і, як жыццё, ён дар Божы.

Евангелле 8-й нядзелі пасля Пяцідзесятніцы, якраз звяртае ўвагу на тое, каб усведамляць гэты Божы дар.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Летапіс Віленскай беларускай гімназіі

*(заканчэнне; пачатак у 29 н-ры)*

Верасень 1939 г. Заходнюю Беларусь з-пад польскай адміністрацыі „вызваляе" Чырвоная Армія. 22 верасня пачынае ў Вільні выходзіць адзіная штодзённая газета на беларускай мове „Виленская правда" — орган часовай управы Вільні. У тэатры на Пагулянцы ідуць беларускія пастаноўкі. З лагера ў Картуз-Бярозе вяртаюцца беларускія дзеячы. У беларускай гімназіі пачынаецца навучальны год, а за партамі засела каля пяцісота хлопцаў і дзяўчат.

У другой палове снежня Вільня была перададзена Літве. Большасць настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі пакідае Вільню, а разам з імі і гімназісты.

Карэннае беларускае насельніцтва горада астаецца. Навокал горада, перш за ўсё з яго паўднёвага і ўсходняга бакоў, цягнецца беларускамоўнае мора. Тутэйшыя беларусы помняць гады беларуска-літоўскай дружбы, супрацоўніцтва і лічаць на яе далейшае развіццё. Але хутка надышло непрыемнае расчараванне. Вільню і ваколіцу наехалі не літоўцы, на якіх спадзяваліся беларусы, а жэмайскія летувісы, не ведаючыя ні беларусаў, ні мясцовых суадносін. Да віленскай зямлі прылажылі яны жэмайцкую мерку. Прышэльцы абселі ўсе ўстановы і ўвялі ў іх летувіскую мову. Сярод прыгарадскога беларускамоўнага насельніцтва польскія школы сталі пераўтвараць у летувіскія. Не адкрылі ніводнай школы з беларускай мовай навучання.

У выніку намаганняў беларускага грамадства на чале з а. Адамам Станкевічам і інж. Адольфам Клімовічам былі адкрыты першыя класы Беларускай гімназіі ў тых самых мурах пры Дамініканскай вуліцы, пад нумарам 3/5. Яе дырэктарам стаў каталіцкі святар — а. Адам Станкевіч. Тады таксама зноў паявіўся беларускі тыднёвік „Крыніца". Агульнае становішча беларусаў было нялёгкае, асабліва датычыла гэта інтэлігенцыі, якая, як і раней, заставалася без працы. Каб неяк пражыць інтэлігенты хапаліся любога занятку. Напрыклад, возным (прыбіральшчыкам) у Беларускай гімназіі працаваў магістр права і грамадскіх навук. Іншы юрыст дастаў па пратэкцыі работу ў віленскім магістраце, дзе лічыў і ўпарадкоўваў розныя старыя паперы, а за гэта плацілі яму з фонду для беспрацоўных. На нейкую аўтаномію віленскай зямлі з яе асобнымі мовамі і суадносінамі нельга было нават і спадзявацца. Усё гэта карэннае насельніцтва адчувала як свайго роду акупацыю.

У другой палове 1940 г. Літва становіцца савецкай. Разам актывізуюцца падвіленскія вёскі. У школьныя органы паплылі заявы за подпісамі насельніцтва з патрабаваннем пачаць у школах навучанне на мясцовай беларускай мове. У Тургелях на сходзе бацькоў, у прысутнасці войта гміны Язэпа Ярмалковіча, партыйных і школьных прадстаўнікоў, была вынесена пастанова аб навучанні ў школах на мове мясцовага беларускага насельніцтва. Пры такой пазіцыі падвіленскага насельніцтва новыя школьныя ўлады пачалі накіроўваць у школы настаўнікаў беларускай нацыянальнасці. І так у Тургелі прыехалі Міхась Шчасны і Вайцех Шутовіч, а быў там ужо яшчэ адзін беларус — Язэп Малей. У школу ў Табарышках трапіла Станіслава Мядоўская, у Слабаду — Галіна Свірская, у Яшуны — Антон Цвячкоўскі і т.п.

За гэта пасля нападу гітлераўскіх немцаў і ў час іх акупацыі на беларускамоўнае насельніцтва Віленшчыны абрушыліся ўсе варожыя сілы. У Тургелі зляцеліся не толькі ранейшыя жэмайцкія паліцэйскія, але нават і польскія, якія былі тут да верасня 1939 г. Пад закідам, што яны камуністы, давілі беларускіх культурных і адміністрацыйных работнікаў. За імі паехалі па вёсках нямецкія спецпадраздзяленні. Ужо ў першых днях ваколіцу асвятліла зарава над вёскай Кердзеёўцы (Гірдзеўцы). Гэта нямецкі спецатрад, прыведзены варожымі мясцоваму насельніцтву сіламі, паліў сядзібу Гасюлёў. Прытым расстралялі Паўла Гасюля ды хацелі злавіць яшчэ яго брата Фларыяна, але таму ўдалося ўцячы. Пачаліся арышты.

Спачатку сітуацыю ратавалі звароты Віленскага беларускага камітэта да нямецкіх улад. Урэшце немцы і на беларусаў, і на летувісаў напусцілі польскую Армію Краёвую. Ад яе сеткі загінуў настаўнік Тургельскай школы Вайцех Шутовіч. Пазней разам з цяжарнай жонкай замучаны быў кіраўнік гэтай школы Язэп Малей. Экзекуцыйны атрад расстраляў у Тургелях яшчэ Яна Блажэвіча. У вёсцы Ажэвічы каля Тургеляў акаўцы мучылі і забілі селяніна Францішка Міхалоўскага. А ў Місючанах (таксама каля Тургеляў) яны ж шомпаламі высеклі краўца Міхася Ярмалковіча. У Бігердах каля Табарышак акаўцы збілі другога краўца, старэчу Яна Федаровіча, які неўзабаве памёр.

Пад Меднікамі падраздзяленні АК акружылі вёскі Сырвіды і Гудзі. Расстралялі тады ў Сырвідах селяніна Пятра Андрыеўскага і каваля Фелікса Вайцяхоўскага. Спалілі тады хаты Вайцяхоўскіх, Андрыевічаў і Баяровічаў. Самыя Баяровічы паспелі ўцячы. У Гудзях расстралялі Мацея Пачопку і ягонага сына Антона і спалілі іх хату.

Каля вёскі Юшкаў пад Табарышкамі летувіска-нямецкая паліцыя расстраляла Юльяна Шавейку і Язэпа Федаровіча з Кяйпунаў, Язэпа і Яна Чаплоўскіх з Лайбішак. Такім спосабам актыў падвіленскага беларускага насельніцтва быў знішчаны, а само насельніцтва — застрашана. Такім яго застала вярнуўшаяся летам 1944 г. савецкая ўлада.

Вернемся, аднак, да пачатку нямецкай акупацыі і Віленскай беларускай гімназіі. Яшчэ летам 1941 г. беларускае насельніцтва Вільні пачало старанні аб ўзнаўленні працы Беларускай гімназіі. Немцы не згаджаліся. Яны не хацелі, як самі гаварылі, нічога новага. Не згаджаліся нават прызнаць прадстаўніцтва беларускага насельніцтва Віленскім беларускім камітэтам, гаворачы, што гэта новы твор. Беларусы зноў гаварылі, што ён не новы, але існуе з 1919 г. Закрыты ён быў польскімі ўладамі толькі ў 1938 г., але працаваў падпольна і так астаўся.

Урэшце нямецкія ўлады Вільні згадзіліся на існаванне беларускай гімназіі, але далучылі да яе яшчэ рускую. Цяпер школа называлася так: Віленская беларуска-руская гімназія. Размяшчалася яна пры вуліцы Вастрабрамскай 29, на месцы ранейшай польскай настаўніцкай семінарыі. Заняткі ў беларускіх і рускіх класах вяліся аддзельна. Дырэктарам гімназіі стаў д-р Францішак Грышкевіч.

Вясной 1944 г. Віленская беларуская гімназія адзначала 25-тыя ўгодкі свайго існавання. У цяжкі ваенны час з'ехалася больш двухсот выпускнікоў. Адбыўся ўрачысты сход, прагучэлі прамовы і прывітанні. Прамаўляў былы дырэктар Радаслаў Астроўскі. Ад мясцовага летувіскага насельніцтва ўдзельнікаў святкавання цёпла вітаў на беларускай мове каталіцкі епіскап (здаецца Райніс). За доўгую настаўніцкую працу ў гімназіі Радаслаў Астроўскі ўзнагародзіў крыжамі Алёну Лекант і а. Адама Станкевіча.

Гэтая ўрачыстасць была ўжо заадно быццам бы пахаваннем Беларускай гімназіі ў Вільні. У хуткім часе надышоў фронт. Ізноў усё развалілася. Беларускаму падвіленскаму і віленскаму насельніцтву, якое шмат выцерпела і страціла ў часе нямецкай акупацыі свой актыў, якое зноў было запалоханае ўздзеяннем варожай прапаганды ў новых абставінах, не хапіла адвагі і сілы змагацца далей за школьніцтва на сваёй роднай мове. Засталося яно без сваіх школ і свайго друку. І ніхто, каго лічылі прыяцелямі, яму не дапамог.

**Віктар Ярмалковіч**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XX**

У выказваннях бацькі вельмі часта паяўляўся матыў адарванасці чалавека ад радзімы. Паводле яго аддаленасць ад роднага краю выклікае пабольшаную прывязанасць да яго. З прызнанняў бацькі вынікае, што патрыятызм чалавека моцна залежыць ад таго, ці гэты чалавек дабравольна ці прымусова пакінуў айчыну. Прымусовы разрыў з краем, паводле бацькі, дынамізуе патрыятычныя пачуцці:

„Я ўжэ табе гаварыў, што мяне прызвалі ў армію ў 1914 року. А ў канцы канцоў я вярнууся ў Бандары толькі ў 1922 року, после таго, як Ленін дагаварыўся з Пілсудскім, значыцца, ні быў я ў Бандарах аж восем лет. Ты толькі падумай — восем лет без родзіны. То гэто палучаецца дзесь каля трох тысяч дзён. Ты знаеш, ні было ні аднаго дня з гэтых трох тысяч, каб я не падумаў аб Бандарах, а часам то думаў кажды дзень, много гадзін. А ведаеш, чаго найбольш ні хацеласё? Не хацеласё, каб забілі далеко ад родзіны і пахавалі ў чужой зямлі.

Калі знялі мяне ў 1917 року з фронту і перавялі ў Маскву для ахраны жалезнае дарогі, то там стаўся праўдзівы цуд. Аднаго разу я іду сабе па пероне дзесь у адным падмаскоўскім гарадку і бачу — перада мною ідзе з вінтоўкаю салдат. А паходка ў яго такая, як у маго роднаго брата Аляксандра, каторага я ні бачыў штэры рокі. Я знаў, што яго таксамо прызвалі ў армію, але ні знаў, дзе ён знаходзіцца. Ты знаеш, я ні мог удзержацца і крыкнуў: Александэр! А што ты думаеш? Аглядаецца гэты салдат і аказваецца, што гэта мой родны брат. Кінуліся мы да сябе і хоць я ні быў ніколі хуткі да слёз, але тут ні выдзержаў і заплакаў. То бачыш, так як бы дзве голкі знайшліся ў стозі сена. Аказаласё, што Александэр таксамо служыт у ахране жэлезнае дарогі. Мало гэтаго, узнаў, што ён у гэтай Маскве ажаніўся з рускаю. Ты знаеш, гэто быў час вялікаго голаду. За грошы ні можно было нічого купіць, только можно было міняці тавар за тавар. Калі нас прыдушыў голад, то я паехаў аж вёрст шэсцьдзесят за Маскву і ў вёсцы паміняў чобаты з ног на пуд мукі. От так босы з гэтаю мукою на плечах і ішоў па Маскве. А после сабе купіў чобаты другіе ад шпікулянта ў поездзі.

То ты знаеш, ад гэтаго часу то я з Аляксандром бачыўсе кажды дзень. Я папрасіў начальніка, каб пазволіў нам з Аляксандром служыці ў адным падраздзяленні і ён пазволіў. Ну і ні было ні аднаго дня, каб мы з Аляксандром ні гаварылі аб Бандарах. І аб хаці гаварылі, і аб хлявах, і аб клуні, і аб полі, і аб выгані, і аб рэчцы, і аб лесі. Аб усім! І здаваласё нам, што німа на свеці лепшаго краю і месца на зямлі, чым Гродзеншчына і Бандары. Ну просто сэрцо рваласё ў Бандары і ўсё. Але, бачыш, ні было суджано Александрові вярнуцца ў родну вёску. Тады ў Маскве панаваў вялікі ціф і людзі мерлі як мухі. Мы самі часто з паяздоў выцягвалі пакойнікоў. І от сталасё так, што Аляксандра ў поездзі ўкусіла ў шыю ціфозна вош і ён памёр. Пахавалі мы яго ў чужой зямлі і ўсё. От табе і вярнуўся ў Бандары мой Александэр! Калі ты нарадзіўсе, то я цябе назваў Александром, каб значыцца, ушанаваць брата.

Памер, значыцца, Александэр, але пачаліся новы клопаты. Его жонка масквічка прычапілася да мяне, каб я з ёю жаніўся і забраў у Бандары. Ну, знаеш, у нас то яно як бы ні прынято жаніцца з братавою жонкаю, бо гэто ўжэ як бы радня. Але найважнейшэ то было другое. Гэта масквічка аднаго за другім курыла папяросы. А табак то быў тады вельмі дарагі. Я ёй гавару: ты кінь курыці. А яна мне кажа: „Бросить курить? Никогда! Я последнюю юбку продам, а курить буду". Ну, то я сабе думаю: добра з цябе будзе жонка і маці, калі ты на папяросы спадніцу прадасі. Ну і вядомо, што я ад брыды, як толькі пахавалі Александра і так можэ прайшоў які тыдзень, уцёк і больш ужэ да яе ні хадзіў.

То бачыш, як яна так рвалася на Гродзеншчыну, то я ёй гаварыў, што яе родзіна Масква і Расея. А яна мне знаеш што сказала? „Наплевать мне на такую родину, где плохо живётся. Там родина, где хорошо живётся".

Ну то ты паглядзі: чы ж гэто ні бесталач? Па-моему родзіна то так само як маці. Чы яна багата, чы яна бедна то яе адзінакаво любім, ну а Александра то мне шкада да слёз. Колькі ж гэто ўжэ лет прашло? Хібо пяцьдзесят, а я ўсё аб ім думаю, напэўно ў той Маскве ўжэ і следу ад яго магілы німа.

**Алесь Барскі**

# Наш характар

Васіль Сакоўскі ў сваёй цікавай манаграфіі п.з. „Беларускае школьніцтва і алімпіядная каніцель" („Ніва" н-р 28 ад 9 ліпеня) трапна паказаў наш маладушны характар. Так, гэта праўда, што калі не будзем мець пачуцця гонару і пашаны да свае роднае мовы, гісторыі ці папросту да самых сябе, то не выратуюць нас ніякія беларускія алімпіяды, якія час ад часу арганізуюцца ў паасобных школах. Помніцца мне час камуны, калі на кожным партыйным сходзе ўсе мясцовыя беларускія таварышы гаварылі паміж сабою выключна па-польску. А якая гэта польская мова была — пасмешышча адно. А цяпер то мы ўжо дайшлі да апагея — дзяцей ад калыскі вучым цокаць па-польску, а калі ўжо пойдуць у школу, не пускаем на ўрокі беларускай мовы. Цураемся свайго паходжання, сваіх карэнняў. Вось Яраслаў Яновіч запрапанаваў вяртанне гістарычных назваў нашых мясцовасцей а мы, дзе не пачуеш, усе супраць роднага. Такі мы народ — куды вецер падуе, туды і мы хілімся. Таксама і ў Беларусі ўсіх ахапіла русіфікацыя. Мае два дзядзькі, Ванька і Федзя, якія жылі ў БССР, калі прыязджалі да нас, гаварылі выключна па-расейску. А трэці дзядзька, Мішка, калгаснік, рубаў па-нашаму: валіў на бальшавікоў, аж пыл ляцеў. Меў за што: яны яго вымучылі да самых касцей толькі за тое, што дзядзька любіў праўду і не быў крывадушнікам. А такіх то не ўсе любяць.

**Мікалай Панфілюк**

## ПАРНАС
Чытальніцкая літсуполка на непрантаваных паях

### Кастусь Майсеня і Музей

Кастусь Майсеня — вялікі будаўнічы,
Ён з сябрамі ў месцы маляўнічым:
У Гайнаўцы белавежскай,
Роднай, палескай,
Рашыў будаваць Музей
Для слаўных і шчырых падзей,
Каб не забыць нашай культуры
І не пертварыць у макулатуру.
А таксама гісторыі
Старэйшай ад караля Баторыя,
Каб спадчыну даць патомству, —
Каб з родным мела знаёмства.
Усе рэчы сабраў у адзін кут,
Што выходзілі з залатых нашых рук,
Нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў,
Што рабілі з талентам і з ведамі.
Яны выканаўцы плугоў, баронаў,
Святых абразоў і царкоўных звонаў,
Станкоў, калаўроткаў і кроснаў,
Кадушак на капусту посную,
Кошыкаў, каробак, карзінаў
На бялізну, грыбы і маліны.
Усіх экспанатаў не пералічыць
У гайнаўскі Музей іх трэба палажыць.
Таксама розныя паперы, дакументы,
Што маюць вартасць канкрэтную.
Каб другія бачылі наша рамясло,
Колішняе, што ўжо адышло.
Няхай сведчыць пра нашу ўмеласць,
Дае нам гонар, чэсць і смеласць.
Музей красуецца, стаіць,
А сэрца цешыцца і не баліць.
Скромна памагаем у пабудове,
Каб Музей у цэласці меў новы.
Ёсць шчырыя ахвярадаўцы:
На першым месцы — Алесь Барскі!
І другія беларускія патрыёты
Не шкадуюць сваіх злотаў.
А таксама суайчыннікі замежныя,
Гэта беларусы незалежныя.
Многія з іх людзі шчырыя,
Для роднай справы мілыя.
Таксама Беларусь адгукнулась,
Дапамагае, бо сама прачнулась
Ад маразму і няволі —
Такая яе доля.
Брат брата павінен шанаваць,
У турботах узаемна памагаць.
Кастусь Майсеня — галоўны будаўнічы,
Гайнаўка — месца маляўнічае,
Комплекс будынкаў Музея —
Гэта наша гісторыя і надзея.

**Мікалай Панфілюк**

## Мільён зайцоў

Леснікі кожнай зімы праводзяць перапіс звярыны. Маюць некалькі спосабаў падліку яе пагалоўя. Калі выпадзе першы снег, бяруцца за падлік слядоў. На лясныя дарожкі выходзяць даследчыкі і лічаць сляды і запісваюць іх напрамак. Леснікі ведаюць, колькі звярыны ў іх участках і калі звераць свае даныя з вынікамі лічэння слядоў на снезе, могуць дакладна ўстанавіць лік паасобных відаў звяроў. Часта даходзіць да рознагагалоссяў паміж леснікамі і паляўнічымі. Леснікі наракаюць, што вялікае пагалоўе звярыны знішчае лес, а паляўнічыя зноў гавораць, што іх лоўныя абшары пустыя. Тады лік жыхароў лесу ўстанаўліваецца метадам пробнага прагону звярыны. Некалькі дзесяткаў людзей, раскінуўшыся ланцугом, выганаюць жыхароў лесу ў напрамку дарог, а там даследчыкі запісваюць дакладны лік звярыны.

Паводле агульнага перапісу, праведзенага ў 1994 годзе, у Польшчы жыло 3 599 ласёў, 96 844 аленяў, 81 146 дзікоў, 516 760 казуляў, 315 395 фазаноў, 993 976 зайцоў і 1 025 359 курапатак.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Хто нарадзіўся ў жніўні

1. Ветлівы, шчыры, высакародны ўладар.
2. Бясстрашны абаронца каханых асоб.
3. Адзначаецца вялікай гармоніяй у супрацоўніцтве з іншымі.
4. Незвычайна чуллівы, уражлівы, а нават натхнёны.
5. Нават у найгоршых абставінах не пакідае сваіх сяброў.
6. Дасканала выкарыстоўвае свае здольнасці.
7. Жыццё праводзіць у адзіноце і не лічыцца з поглядамі іншых.
8. Прагне ажыццявіць свае ідэалы.
9. Карыстаецца давер'ем у высокапастаўленых людзей.
10. Патрапіць захаваць чужыя тайны, трапна характарызуе людзей.
11. Самастойны, вынаходлівы — верыць у сваё жыццёвае шчасце.
12. Вылучаецца ў сваім асяроддзі — умее кіраваць людзьмі.
13. Хаця яго паводзіны не раз жорсткія, але сэрца адкрытае, шчырае.
14. Умее выкарыстаць усе аказіі, якія трапляюцца ў жыцці.
15. Упарта імкнецца да мэты, якую сабе вызначыў.
16. Вылучаецца крытычнымі і аналітычнымі здольнасцямі.
17. Адзначаецца лагічным мышленнем і тактоўнасцю.
18. Працавіты, летуценны, ахвотна займаецца слабейшымі.
19. Сур'ёзны — створаны для ахвярнай працы.
20. Мае высокаразвітае душэўнае пачуццё — яго ўчынкі высакародныя.
21. Спакойны, прастадушны — захоўваецца натуральна.
22. Праз доўгія гады захоўвае свае сілы і можа дажыць старэчых гадоў.

Падрыхтаваў
**Янка Целушэцкі**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. пірат, 3. чорна-белая птушка, 5. пажыўны напітак, 7. няякасны тавар, 9. выбарны орган улады, савет, 10. цэнтралізаваная сістэма кіравання, 11. востры бераг, 12. горад у Нямеччыне пры граніцы з Галандыяй, 14. струнны інструмент, 16. весялун, непаседа, 17. „евангельскае" імя.

**Вертыкальна:** 1. дыяметр ствала агнястрэльнай зброі, 2. дугападобнае перакрыццё дзвярэй, 3. птушка, сімвал мудрасці, 4. камплект ігральных карт, 6. нізкі жаночы голас, 8. націск, 9. амплітуда, 11. абласны горад на поўдзень ад Масквы, 13. сібірская рака, 14. мясцовасць пад Каірам, там слаўныя піраміды, 15. аправа для карцін.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 24 н-ра:** сырнік, навіна, Іматра, даклад, аналой, парсюк, гарбуз, Байран, роспач, паклон.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астронку! Прысніўся мне такі страшны сон. Быццам я на вёсцы ў бабулі. Там дзе стаяла плябанія, стаіць, бачу, крама з Беластока. З рыны, што на будынку крамы, цячэ вада. На вёсцы былі бандыты, якіх гэта вада надта нервавала. Яны са злосці бралі людзей і абразалі ім па локці рукі. Ужо назбіраліся цэлыя міскі гэтых рук, і бандыты затыкалі імі рыны.

Я з дома бабулі ішла на могілкі, але па дарозе мінала лужыны не з вадою, а поўныя крыві. Быў вечар. На могілках трупы пачалі выходзіць з магіл і страшыць. Выйшаў і мой дзед-нябожчык. Я перапужалася і ўцякла за дрэвы. А пасля прайшоў цэлы парад трупаў. І тады мой дзедка паявіўся ў хаце. І ўжо я не баялася і мы ўсе разам сядзелі ў хаце. Што мяне чакае?

**Аня**

Аня! Твой сон папярэджвае цябе перад небяспекай. Аб гэтым яскрава гавораць тыя лужыны, у якіх замест вады была кроў, тыя бандыты, якія абразалі людзям рукі, і затыкалі імі рыны, а асабліва ажываючыя нябожчыкі, якія страшылі людзей і наладзілі парад. Твой ажыўшы дзед-нябожчык тут таксама не прадвяшчае нічога добрага, хаця ў канцы ты яго ўжо і не баялася, ды вы ўсе разам сядзелі ў хаце. Падрыхтуйся да моцных жыццёвых udараў.

**Астрон**

## БЯРОЗА



Бяроза — цудоўнае любімае дрэва нашай, у недалёкім мінулым, рэдактар „Нівы" магістр Веры Валкавыцкай! Усё адышло! Бяроза сёння выклікае настальгічныя ўспаміны аб вашай дзейнасці. Так, вельміпаважаная Вера! Вы ніколі не перакручвалі зместу маіх „Запісак натураліста". Асталіся вы ў маім сэрцы як адна з найдасканалейшых рэдактараў „Нівы", якія неслі словы беларускай мовы і культуры на цэлы свет.

**Бяроза!** Гэта не фантазія. Яна расце ля храма св. Тройцы ў Гайнаўцы. Стаіць там і камень з багатай гісторыяй. Ён перажыў некалькі ледавіковых эпох. Устаяў супраць змен тэмпературы, ветру і сонца. Камень!.. Сімвал вечнасці. Пад абстрэлам я хаваўся за падобны камень. Адыходзячы, пакланіўся гэтаму збавіцелю. Хацеў бы яшчэ калісьці яго ўбачыць у даліне ракі Одры.

Я прыклаў усе свае графічныя намаганні, каб гэткія дарагія нам аб'екты гаварылі да нас словамі вечнасці нашай бытнасці на гэтай зямлі, на гэтым этнічным астраўку...

**інж. Б.Ф. Рудкоўскі,**
лаўрэат Залатога медаля
Лігі аховы прыроды

## Карысныя парады

### Сок з чорнай рэдзькі

Ён лечыць страўнік, абараняе арганізм ад лямбліяў. Смак у яго непрыемны, горкі, але вынікі прымянення проста цудоўныя. Хопіць раз у тыдзень выпіць шклянку соку з чорнай рэдзькі.

З чорнай рэдзькі можна рабіць салат. Я бяру 2 кілаграмы рэдзькі, шкурку абрэзваю, рэдзьку тру на тарцы з малымі вочкамі. Выціскаю лячэбны сок. Астаўшуюся масу заліваю кіпетнем на 10 секунд, выціскаю ваду, 3 разы заліваю масу летняй кіпячонай вадой і выціскаю яе (раблю гэта, каб пазбавіць салат гарчэчы). Пасля дадаю соль і перац для смаку, адну дробна пасечаную цыбуліну і чвэртку смятаны, усё добра мяшаю.

### Альяс (бальсон) добры ад кашлю

Сок альясу добры на апаранні і ад кашлю. Некаторыя лісткі альясу ядуць са шкуркай, не выціскаючы соку.

Сок альясу, пераварany з мёдам і спіртам мае лячэбную моц. Рыхтуецца гэта так: зняць з лісця шкурку, мякіш размяшаць з мёдам. Варыць на свабодным агні, мяшаючы, пакуль не закіпіць. Кіпяціць пяць мінут, дадаць спірт. Зноў давесці да кіпення і праз 2 хвіліны зняць з агню. Астуджаны пакласці ў шчыльна закручаны слоік. Трымаць у сухім і халодным месцы. Піць па 1 сталовай лыжцы 3 разы ў дзень пасля яды, запіваць гарачай гарбатай.

### Дубовая кара і вольхавыя шышкі...

... лечаць ад паносу (бягункі). Для немаўлят і дарослых найлепшая дубовая кара. Вольхавымі шышкамі лячыць дарослых і старэйшых некапрызных дзяцей, бо смак у іх даўкі (церпкі).

Кару зрэзаць з маладых галінак. На літр вады трэба 200 грамаў сырой кары або 100 сухой. Варыць яе, пакуль не закіпіць, трымаць 5 хвілін на агні і зняць з яго каструльку, працадзіць. Піць кожныя 2 гадзіны па шклянцы. Смак у гэтага напою падобны да рамонкавай заваркі. Вольхавыя шышкі рыхтуецца падобна, аднак смак у іх непрыемны, хоць вынік лячэння імі аднолькава карысны.

**Аўрора**


Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a w IV kwartale — 15,40 złotych (154 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Спеўнік Нупрэя Супонькі

## ВЫ ШУМІЦЕ, ШУМІЦЕ...

Вы шуміце, шуміце
На ўвесь край, дэпутаты,
Калышыце, пішыце
Свой закон векавы.
А мы сядзем, падлічым
Вашы глупствы і страты,
Як вялі беларусаў
Вы на злом галавы.

А мы сядзем, падлічым
Усе вашы прамовы,
Што на ясную справу
Напускалі туман.
З абяцанак-цацанак
І пустых пастановаў
Вам ля Дома Урада
Мы насыплем курган.

Вы шуміце, шуміце
На ўвесь свет, дэпутаты,
Асляпляйце наіўных
Слоў бенгальскім агнём.
А мы ляжам, прыляжам
У цяньку каля хаты
І ад вашага цырку
Хоць крыху адпачнём...

*(„Вожык")*

# Ну дык торба!

Жыве на свеце паляўнічы,
Завуць якога — Нікано.
Чалавек жа ён фальшывы,
Яго словы — хлусні ўзор.

Што за цэльнасць, рука, вока,
На што ж ён не паляваў.
Ён страляў і ў рысь, і ў воўка,
І ў мядзведзя раз папаў.

Адзін раз на паляванні
Ён такі выпадак меў:
— Як зайшоў я у бярэзнік,
Глянь — і цецер надляцеў.

Я за стрэльбу — бах! — ды ў торбу!
Заяц — бах! — ды ў торбу зноў.
Ліс, казёл — бах! бах! — ды ў торбу,
Лось — бах! — ў торбу, шкада слоў.

Усё ж пытаю: — Ты ж шалёны,
Што за торба? Лепш маўчы!
— Што вы? Я ж там па патроны,
А вы думалі — за чым?

„Улас"

# СЕНТЭНЦЫІ

Калі кахаеш — маўчы, тады найбольш скажаш.

* * *

На тое вецер, каб зразумець цішу.

* * *

На тое ноч, каб даацаніць дзень.

* * *

Не на тое сонца, каб яго далонямі засланяць.

* * *

З падрэзаным горлам арыі не спяеш.

**Барыс Руско**

# НІЎКА




Мал. А. Папова

# З нашага жыцця

Першага сакавіка г.г. у доме Мар'і К. пазваніў тэлефон.

— Слухаю вас, — сказала гаспадыня ў трубку. — З кім размаўляю?

— Падайце мне свой размер, — прамовіў мілагучны жаночы голас.

— Я ж нічога не заказвала? — здзівілася Мар'я. — Хто са мною гаворыць?

— Тут пахавальнае прадпрыемства. Скажыце, калі ласка, які ваш рост?!

* * *

У Галіны Б. нумар тэлефона адрозніваўся ад банкаўскага адным нулём. Кожны дзень некалькі асоб тэлефанавала Галіне Б. у справе грошай. Абрыдла ёй адказваць, што не туды трапілі, што розніца ў тым няшчасным нулі, што ўжо надаела ёй падымаць трубку...

— Так, гэта банк, — адказала яна аднойчы з усмешкай.

— У вас хутка можна аформіць перавод?

— Хутка.

— Праз колькі дзён?

— Праз гадзіну.

— Праўда? — аж ускрыкнуў размоўца. — У іншых банках даводзіцца чакаць, а ў вас так скора? Зараз да вас прыеду!

— Калі ласка, чакаем, — ветліва дакончыла Галіна Б. — Ну, едзь, чалавеча, хай табе афармяць той перавод.

* * *

— Трэба пайсці да іншай жанчыны хоць на адну ноч, — кажа сусед суседу.

— Што, табе твая палова ўжо абрыдла, ці не?

— Ну, старая ўжо. Хацелася б сустракацца з маладзейшай.

— Я табе не раю. З кабетамі так, як з ялавічынай і цяляцінай. Ялавічына цвярдзейшая, то яе жуеш ды жуеш, а цяляцінку раз-два і пракаўкнеш.

— Ну і параўнанні ў цябе, Макар!

— Але і праўду кажуць. Свая жонка пры табе заўсёды, а дзеўка пойдзе ў свет, як кончацца твае грошы.

* * *

— Хто ў вас галава сям'і? — пытае настаўніца першакласніка Адася.

— Мой двухмесячны брацік. Як толькі заплача, усе бягуць да яго і глядзяць, чаго ён хоча ды тое і робяць, што Алік загадае.

**Аўрора**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ
## або „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Вуліцаю ідзе малы хлопчык і курыць папяросу.

— Колькі табе гадоў? — пытае прахожы.

— Пяць.

— А здаўна курыш?

— Першы раз закурыў, як праспаўся з дзяўчынаю.

— А даўно гэта было?

— Не помню, тады быў зусім п'яны.

* * *

— Пан доктар, прашу параду. Пазаўчора прыходжу з працы дамоў, а там жонка ляжыць голая з незнаёмым мужчынам. Як мяне ўбачыла, дык сказала, каб пайшоў я на кухню і там выпіў каву. Учора тое самае, і сёння!

— Вам патрэбны адвакат, а не лекар.

— Ды я хацеў бы ведаць, ці столькі кавы не пашкодзіць здароўю.

* * *

— Пан доктар, мая жонка не мае валасоў на ўлонні.

— Ну і што; ці вам гэта перашкаджае?

— Мне не, толькі суседзі смяюцца.

* * *

— Пан доктар, у мяне вельмі брыдкая жонка. Ці не маглі б вы зрабіць ёй пластычную аперацыю?

— Чаму не; толькі гэта будзе дорага каштаваць.

— Тады нічога з гэтага не будзе, не маю грошай.

На другі дзень лекар спатыкае пацыента на шпацыры з жонкай. Адклікаў яго на бок і кажа:

— Ну і праўда, вы так не можаце больш жыць. Зраблю гэту аперацыю за палову цаны.

— Ужо не трэба. Паляўнічы за літр гарэлкі яе застрэліць.

* * *

Прыходзіць мужчына да лекара і паказвае свой чэляс цэлы ў сіняках.

— Хто вам такое нарабіў? — пытае лекар.

— Я сам, бо я — мазахіст.

— Як вы гэта робіце?

— Кладу на стол, закрываю вочы і б'ю таўкачом.

— І маеце ад гэтага прыемнасць.

— Як не пападу.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Тое, што здарылася пару месяцаў назад, шакіруе мяне да сёння. Але мушу расказаць табе ўсё ад пачатку, усё, як было.

Сяброўка запрасіла мяне ў кампанію. Люблю схадзіць кудысьці, ну, дык я згадзілася, хаця на гэты раз не зусім ахвотна. Справа ў тым, што я была дамоўлена з адным хлопцам на вечар. Быў гэта хлопец, які падабаўся мне ўжо даўно. Бяда, што ў яго дзяўчат было, як кажуць „на пучкі" — выбіраў, якую хацеў. Відаць, прыйшла і мая чарга. Якраз у яго была свабодная хата. Паколькі мы мелі сустрэцца а дзевятай вечара, я меркавала, што паспею вярнуцца з тае кампаніі (у сяброўчынай сяброўкі былі імяніны).

Спачатку я на гэтай прыватцы была амаль непрысутная: увесь час, безупынна думала пра сустрэчу з хлопцам, якой я чакала мо ўжо паўгода. Хлопец быў, як намаляваны. Рэдка сустрэнеш такога статнага і прыгожага. Я чула, што ў яго раней была дзяўчына, з якой яны хадзілі даволі доўга, але нешта там не выйшла, і яны разышліся ў розныя бакі. Дзівачка! Такі хлопец! Ну, дык можаш сабе, Сэрцайка, уявіць, што адчувала я, чакаючы тае сустрэчы. Усё ў сярэдзіне ў мяне аж дрыжэла, калі падумала я аб тым, што будзе.

Ну, дык калі адзін хлопец з імяніннай кампаніі пачаў завіхацца каля мяне, нават не ўзрушылася. Фліртавала з ім, вядома, але можна сказаць, што толькі дзеля таго, каб фліртаваць. Не адчувала я ніякай унутранай патрэбы, каб прыцягнуць яго да сябе, вось так проста рабіла гэта, з прывычкі.

А хлопца, відаць, такая мая даволі халодная пастава ўзбуджала ўсё больш. Відаць было, што і ён не першынец у гэтых справах. Прытуляўся да мяне, штораз цмокнуў — то ў шчаку, то ў валасы, то ў вуха. Браў мяне ўвесь час танцаваць. Мне нават рабілася прыемна.

Як славутая папялушка, схамянулася я, калі на сцяне гадзіннік прабіў дзевятую гадзіну. Я вырвалася з рук гэтага хлопца і сказала, што мне трэба ўжо ісці. Куды ты так спяшаешся? — спытаў ён, а я выкруцілася адказам, што заўтра з бацькамі вельмі рана мы едзем на вёску. Ён упёрся, што пойдзе мяне праводзіць.

Што было рабіць?! Было ўжо даволі позна, і я нават пачала крыху баяцца ісці адна (было гэта яшчэ ранняй вясной). Згадзілася, што праўдзе, ён жа і так не ведаў, дзе я жыву, дык мог бы мяне падвесці і пад блёк таго хлопца, з якім я дамовілася. А, зрэшты, няхай думае, што хоча! Ці ж мне з ім дзяцей хрысціць! Не мушу тлумачыць кожнаму, куды мне трэба. Правёў вось — і да пабачэння.

Доўгачаканая сустрэча з цудоўным, як абразок, хлопцам, расчаравала мяне. Ну, можна сказаць, не выйшла. Думаеш, што я думала пра хлопца, з якім пазнаёмілася ў той вечар? Не, гэта не было тое. Хлопец як быў прыгожы, так быў да нічога ў якасці каханка. Я перастала дзівіцца, што тая дзяўчына кінула яго. А тыя, што ляцелі на яго, як мухі на мёд, няшмат ведалі пра яго. Не ўчыніў ім гонару і не запрасіў у пасцель. І я была такая ж дурная.

Пасля гэтай сустрэчы нашыя адносіны не сапсаваліся, але і не пацяплелі. Хлопец быў вельмі прыемны і мне падабалася пагаварыць з ім, пайсці ў кіно ці на каву. Сустракацца з ім я ўжо, аднак, не мела ахвоты. І ён гэта зразумеў. Не прапанаваў мне больш інтымных сустрэч. Часамі заглядаў мне ў вочы, чакаючы, што я нешта запрапаную, але я маўчала. Адчуваў сябе вінаватым. Нарэшце мне надакучылі сустрэчы з ім. Няхай сабе ходзіць з іншымі ў кіно ці ў кавярню! Кандыдатак яму не бракавала.

А той хлопец, з якім пазнаёмілася я на імянінах, ужо месяцы два як званіў і запрашаў мяне. Я з ім нікуды не хадзіла. На выгляд быў ён цалкам звычайны, а мне падабаліся хлопцы асаблівыя. Але аднойчы зусім неспадзявана сустрэліся мы ізноў у нейкай сяброўскай кампаніі. Тут ужо ён мне не дараваў. Быў настолькі сардэчны і чуллівы, што і я паддалася. Першы раз кахаліся мы доўга і страсна — як у сапраўдным фільме. Было мне так добра, як ніколі ў жыцці. Хлопец аказаўся ў гэтых справах надзвычайны. А цяпер вось выходжу за яго замуж. Не ўсё золата, што свеціцца!

**Рыта**

**Рыта! Nic dodać, nic ująć! Цалкам згаджаюся з табой.**

**СЭРЦАЙКА**